# МАЛАДЫ АРАТЫ

ЧАСОПІС
СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

Орган ЦКЛКСМБ

Мастак А. ВАЛО



A. VALO 26.

№ 11 (29)

На шляху ў будучыню



1926 г.

# Што робіцца ў Польшчы

### Экономічнае становішча краіны.

У сучасны момант у Польшчы вялікае беспрацоўе. Шмат фабрык і заводаў спынілі сваю вытворчасьць з-за недастачы такога месца, куды-б можна было прадаваць свае вырабы. Польская прамысловасьць пазбавілася тых рынкаў, якія яна мела раней у Расіі. Дзяржаўныя выдаткі надзвычайна вялікія і не па кішэні польскай дзяржаве. Сорак процантаў усіх выдаткаў ідзе на ўтрыманьне вялічэзнага войска, якое Польшча трымае з-за страху перад комунізмам. У дзяржаўным апараце адбываюцца пакражы дзяржаўных грошай, у якіх удзельнічаюць і шмат хто з міністраў. Дзеля пакрыцьця ўсіх выдаткаў не хапае сродкаў, і гэта прымушае польскі ўрад шукаць пазыкі заграніцай. Аднак пазыкі ніхто не дае. Польскі злоты становіцца ўсё ніжэй і ніжэй сваёй каштоўнасьці.

Усё гэта ўтварае цяжкое становішча ў краіне і выклікае нездавальненьне шырокіх колаў рабочых і сялян.

Польская ўлада выкарыстоўвае суворыя прасьледаваньні супроць рэволюцыянэраў і ўсіх падазроных у спачуваньні рэволюцыйнаму руху. Польская ахранка выкарыстоўвае да арыштаваных самыя суворыя зьдзекі і пыткі. Асабліва прасьледуецца насельніцтва на „крэсах всходніх"—беларусы і украінцы. Ім не даюць аніякай магчымасьці вольнага культурнага разьвіцьця. Не дазваляюць ім утвараць школы на роднай мове і імкнуцца рознымі спосабамі зьнішчыць іхнюю культуру.

Некалькі гадоў таму назад, калі савецкае войска падыходзіла да Варшавы, польская буржуазія абяцала сялянам зямельную рэформу. Справа йшла пра тое, каб прымусіць паноў прадаць сялянам частку сваёй зямлі звыш абмяжованай найвысшай нормы. Гэтае абяцаньне было дадзена сялянам тады, калі начальнікам польскай дзяржавы быў Пілсудзкі. Зямельная рэформа да гэтых часоў ня зьдзейснена. Калі-б яе нават правялі, дык выгаду ад яе атрымалі-б ня шырокія гушчы сялянства, а ўсяго толькі кулацкая частка вёскі.

### Пераварот Пілсудзкага.

Пілсудзкі—былы член польскай соцыялістычнай партыі — ППС (згодніцкай, меншавіцкай). Тое, што яму ўдалося ў часе вайны з Савецкай Расіяй абараніць Варшаву ад напору чырвоных і прымусіць Чырвоную армію адступіць, утварыла яму славутнасьць нацыянальнага героя і абаронцы бацькаўшчыны ў польскіх дробна-буржуазных колах. Польская буржуазія, калі Пілсудзкі стаў ёй непатрэбен, адхіліла яго ад улады. У вапошні час Пілсудзкі пачаў дамагацца ўзвароту на кіраўнічую пасаду ў польскім войску. Ён абапіраўся пры гэтым на нездавальненьне шырокіх мас існуючым у краіне становішчам і на вайсковыя колы, у большасьці з маладога афіцэрства, што вылучылася пры Пілсудзкім. Гэтаму афіцэрству старыя афіцэры не давалі ходу, і маладыя афіцэры палохаліся, што, у часе прадстаячага скарочаньня войска, іх скароцяць у першую чаргу. Маючы значны лік прыхільнікаў у войску, Пілсудзкі ў канцы першай паловы мая зрабіў дзяржаўны пераварот: з некалькімі аддanымі яму палкамі ён пашоў на Варшаву, і пасьля некалькіх дзён упартай бойкі, у часе якой загінула некалькі сотак забітых і некалькі сотак параненых, Пілсудзкі захапіў уладу ў свае рукі, прымусіў урад Вітаса[1]) і прэзыдэнта Вайцэхоўскага адмовіцца ад улады і ўтварыў новы ўрад.

На баку Пілсудзкага, акрамя значнай часткі вайсковых, зьявілася партыя ППС і некаторыя іншыя партыі. Агіднасьць да ўладараньня польскіх паноў, агіднасьць да існуючага ўціску—рэакцыі ў асобе ўраду Вітаса—забясьпечыла Пілсудзкаму і яго войску падтрыманьне часткі рабочых і сялян. Рабочыя спадзяваліся, што з узяцьцем улады Пілсудзкім палепшыцца становішча працоўных мас. Сяляне ў сваю чаргу спадзяваліся, што Пілсудзкі ажыцьцёвіць тую зямельную рэформу, якую ён калісьці абяцаў.

Супроць Пілсудзкага згуртавалася ўся польская рэакцыя, зьехаўшыся ў Пазнань (заходняя частка Польшчы) і не прызнаючы ўлады Пілсудзкага.

[1]) Галоўны міністар Польшы.

Прышоўшы да ўлады, Пілсудзкі анічога не зрабіў дзеля палёгкі становішча народных мас. Аніякай акрэсьленай політычнай прогрaмы ён ня высунуў. Уся яго програма зышла да таго, што трэба стварыць у краіне чэсную ўладу, бо ў дзяржаўных установах крадзецца польскі скарб. Вызначыўшы на пасады міністраў іншых асоб, Пілсудзкі не зьмяніў істоты політыкі мінулага ўраду. Ён нічога не зрабіў, каб распачаць рашучую барацьбу з рэакцыяй. Ён з самага пачатку перавароту больш за ўсё палохаўся, каб ня выступілі народныя масы, якія могуць павесьці праз яго галаву рух куды далей, чымсь ён уяўляў. Таму Пілсудзкі імкнуўся надаць перавароту законны выгляд, спасылаючыся пры ўтварэньні новага ўраду на польскую конституцыю, хаця-ж выступленьне з войскам супроць ураду, аднак, і не прадугледжана аніякай конституцыяй.

Усёй сваёй дзейнасьцю пасьля перавароту Пілсудзкі імкнуўся паказаць польскай буржуазіі і паном, што ён ня хоча перашкаджаць іхняму гаспадараньню, імкнучыся прыйсьці да згоды з правымі.

### Выбары прэзыдэнта.

Пілсудзкі імкнецца да дыктатуры. Дамагаючыся свайго абраньня на пасаду прэзыдэнта Польскай Рэспублікі пасьля адыходу Вайцэхоўскага, Пілсудзкі жадае, каб правы прэзыдэнта былі пашыраны, а правы польскага сойму абмяжованы. Пілсудзкі жадаў стаць прэзыдэнтам з дыктатарскімі, нічым не абмяжованымі, правамі.

На 31 мая быў прызначаны польскі нацыянальны сход з мэтай абраньня новага прэзыдэнта. За Пілсудзкага галасавала і частка правых партый. Пілсудзкі атрымаў абсолютную большасьць галасоў—292. Кандыдат правых пазнаньскі ваявода Бнінскі атрымаў 193 галасы. Беларусы і украінцы ад галасаваньня ўстрымаліся па той прычыне, што галасаваць за правага яны не маглі, аднак даверыцца Пілсудзкаму таксама не маглі, разумеючы, што ён нічога ня зробіць дзеля па-

(Глядзі 3-ю ст. вокладкі).

Год выданьня II

Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!






№ 11 | Чэрвень 1926 г. | Менск

# На пасту

*(Апавяданьне)*

I

Ці Сымонка Трыфанаў павагаю карыстаўся, ці спадабаўся чым-небудзь сялянам, толькі на сходцы абралі яго старшынёю камітэту ўзаемадапамогі аднагалосна.

Сяляне перавыбарамі засталіся вельмі здаволены—старшыню выбралі добрага.

Комсамольцы таксама рады: як-жа—свой хлопец Сымонка, комсамолец стары і сур'ёзны. Гэта ён першы давёў свайму бацьку—старому, што трэба перайсьці на шматпольле, і з таго году гаспадарку сваю панавуковаму паставіў. Гэта ён летась першы гаварыў на пасяджэньні сельсавету аб арганізацыі ў сяле хаты-чытальні. А цяпер-жа ўжо ў сяле хата-чытальня адчынена, у раёне першай лічыцца.

Выбралі Сымонку старшынёй, і не абмыліліся сяляне. Сымонка дарма што малады, але заўзята за працу ўзяўся. Камітэт, ня ў прыклад быўшаму, дапамагаў беднаце, а сродкі расьлі.

II

І чаго-ж гэта ночы зімовыя такія пустыя, ды доўгія: слова скажаш, заскрыпіш шагам—за вярсту чуваць.

Так вось у вадну з гэткіх начэй, калі месяц начэй ухмыляўся палём, калі вецер, як закаханы хлопец, жартаваў з голымі вербамі, калі сяло, аблітае халоднымі праменьнямі месяца, драмала,—у хаце сельсавету адбывалася чарговае пасяджэньне камітэту ўзаемадапамогі.

Як і заўсягды, Сымонка-старшыня дзельна і талкова гаварыў:

— ...кооперацыю у нашым сяле адчыніць бязпрыменна трэба. Камітэт павінен паставіць прад сабою гэту задачу, павінен яе выканаць...

Слухалі сяляне, дымілі самасейкай, харкалі моцна, і ў соты раз разглядалі на сьцяне прыжмуранага Леніна, ня спыняючыся, кідаючы паміж слоў клубы дыму ад самасейкавага тытуну, выказваліся ў спрэчках сяляне. А як пасяджэньне скончылася, сакратар каравымі літарамі пісаў: „Ухвалілі: з фонду камітэту аддаць на кооперацыю 70 пудоў жыта і, апрача гэтага, камітэту ўнесьці ў кооперацыю сяброўскі ўзнос за 50 беднякоў сяла.

Старшыня: *С. Трыфанаў.*

Сакратар: *Мельнік.*

III

Пад вакном вецер плакаў—у хату прасіўся. Апрыкрыла шалёнаму па палёх, па абшарах, па халадох вандраваць—пагрэцца, мусіць, захацеў.

У Сымонкавай хаце цёпла. Старыя спаць даўно ўжо ляглі. Сам Сымонка за сталом сядзіць, на стале малюсенькая лямпа гарыць. Змардаваўся сёньня Сымонка—папрацаваў шмат, а ўсё такі на сваём паставіў, сваю заветную думку ажыцьцявіў. Хутка, хутка ў сяле кооперацыю адчыніцца; і прыемна Сымонку ад гэтага, не за сябе, за другіх прыемна. Ня жыве Сымонка сваім жыцьцём, жыве ён жыцьцём сялянскай масы. Думкі і жаданьні сялян—яго думкі і жаданьні. Газэту чытае Сымонка, а ў самога думка далёка шугае, навокал кооперацыю круціцца.

За сьцяной вецер. На дварэ вароты рыпаюць. У коміне хтось сьмяецца.

Раптам да сьвісту ветру і рыпу варот далучаецца новы нечаканы гук.

Хтось стукае і стукае, здаецца ў вароты Сымонкавага дому.

Кінуў Сымонка газэту, к варотам вышаў.

— Хто стукае? Каго трэба?

— Адчынеце, Сымон Іванавіч, гэта я, на хвілінку да вас завярнуў па дзелу!

Голас як-бы крамніка Андрона.

— Чаго яму ў такі позны час трэба?—падумаў Сымонка, але вароты ўсё такі адчыніў.

Увашлі ў хату.

— Вось што, Сымон Іванавіч, я да вас па вялікай справе,—загаварыў першым Андрон амаль што ня шопатам і падышоў к Сымонку бліжэй.

— А справа вось якая: як, значыцца, вы камітэтам парашылі кооперацыю адчыніць, дык мне гэта зусім некарысна. Разарэньне гэта для мяне чыстае. Вы-ж, Сымон Іванавіч ведаеце, што я жыву толькі з сваёй крамкі, і хоць лічуся кулаком, а вось як перад „ісьцінім" чуць канцы з канцамі зводжу. Вашым-жа кооперацыям зусім вы мяне прыкончыце. Вось дзеля гэтага я і звярачаюся да вашай міласьці. Галоўны-ж зачынацель гэтай справы вы,—я вас і прашу кінуць яго! Карысьці вам ад яго аніякае, а каб, значыцца, паблагароднаму было, дык я вам дам соценную адступнага ды кварту з вамі разап'ем—і баста! Ідзе?!



Слухаў Сымонка і маўчаў. Прыкра было слухаць, але маўчаў. Гэтак маўчыць лес перад навальніцай, калі бліскавіца мітусіцца, калі наўкол ужо носіцца водгульле навальніцы. Цяжкое гэта маўчаньне; напружнае, грознае.

І толькі, калі скончыў Андрон, падышоў к яму Сымонка, ледзьве стрымоўваючы сябе ад абурэньня, сілай павярнуў крамніка тварам да дзьвярэй і, паказваючы на іх пальцам, сказаў:



Слухаў Сымонка і маўчаў.

— Ідзі, Андрон, і болей ня прыходзь з такімі справамі. На першы раз прашчаю табе, а прыдзеш другі раз, будзеш мець справу з выканкомам. Гэтым не абмяжуешся...

IV

У гэтую ноч Андрону крамніку ня спалася ў сваёй гонтаю крытай хаце. Да трэціх пеўняў сьвяцілася з пад акеніц з жалезнымі засовамі.

У сьценках хат мароз патрэскваў. Лёгкі марозны вецярок прагульваўся па пакрытых сьнегам саламяных стрэхах. Марозны вецер цікавы. Усюды пабывае, хоць дзе прадзьме. Вельмі яму хацелася ведаць, дзеля чаго гэта крамнік Андрон ня сьпіць. Ломіцца бягун-вецер у шчытна зачыненыя акеніцы. Знашоў шчэлку, прынік да шкла, глядзіць у хату сваімі халоднымі вачамі.

Сядзіць Андрон, на сьвятло лямпы глядзіць. Галава усё роўна як агонь, ад думак гарыць, не зьмяшчаецца думка ў малым чэрапе галавы крамніка—наверх выходзіць.

— Не падкупіў я цябе грашмі—крывёю вазьму,—шэпчуць губы.

Ноч ідзе хутка, як-бы за ёю хто ганіцца. Тчэ гадзіньнік вялікае палатно часу. За зімовую ноч утамілася ночка, ей на зьмену дзень ідзе.

V

Зьвяртаўся Сымонка ў сяло ўвечары—замарудзіў у воласьці.

Змрок пакрыў абшар зямлі.

Чуць відно, дзе дарога ляжыць, але Сымонка ідзе сьмела. Знае ён з дзяцінства гэтую дарогу, вочы завяжы—і тады знойдзе сяло.

Ідзе і думае. Думае аб тым, што вясна блізка, думае аб камітэце, думае аб адчыненьні ў сяле коопэратыву, якое павінна адбыцца на тым тыдні.

А змрок дае аб сабе ведаць. Здаецца, што з заплюснутымі вачмі ідзеш, хочаш расплюшчыць іх, моргаеш векамі, але не, ня бачыць воку... Цемната...

Далёка, далёка зорачкай агончык блыснуў. Блыснуў, схаваўся на міг і зноў засьвяціў, ухмыльнуўся...

„Сяло блізка“, падумаў Сымонка.

Што гэта?! Здалося. Не. Зноў здалося, зарыпеў сьнег раз, другі, яшчэ і яшчэ. Хтось ідзе, але хто—ці зьвер, ці чалавек—ня відно.

— Сымонка, ты?—раздаўся зусім блізка з цемнаты голас. Голас вельмі знаёмы.

— Я, я,—бадзёра адказаў Сымонка.—А ты хто? Куды прэш?

Адказу не дачакаўся. Зусім блізка зарыпеў сьнег. Блыснуў агонь. Распаленым прутам жалеза сьцебануў хтось у грудзі—горача стала. Як у тумане пранесьлася прад Сымонкам, што цяпер не марозы зімнія, а лета зялёнае...

„Зачым ісьці далей? Трэба адпачыць, наўкола так прыемна, так цёпла, трава такая мяккая“, прамільганула ў Сымонкавай галаве, як ува сьне.

Сымонка ўпаў на сьнег, і чорны цень мільгануў ад яго к сялу—сьнег зарыпеў.

На сяле песьня разьлівалася:

Успаілі цябе і ўскармілі
Айчызны радзімай палі...

Гэта комсамольцы Сымонку чакалі. А Сымонка ляжаў нярухома, і кроў чорная, як змрок, бруілася з ранкі ў грудзёх на белы сьнег. І плакаў пад Сымонкам сьнег крывавымі сьлязьмі.

VI

Шчыра дарыла сонца зямлю медзьдзю сваіх залатых праменьняў. Сьнег пацьвярдзеў, пачарнеў, зьлізваўся з зямлі сонцам... Весела беглі раўчакі па лагчынах палёў, сьпявалі брызгамі аб ідучай вясьне.

Вясна была вясной і ў горадзе.



Блыснуў агонь. Распаленым прутам жалеза сьцебануў хтось у грудзі—горача стала.

Абрадаваныя вясной вераб'і крычалі на розныя лады да вераб'інай дурасьці—рады былі вясьне.

Веснавое сонца—нястомлены працаўнік і ванроўнік. Заглянула яно і ў вакно больніцы за горадам. Зайграла зайчыкам па падлозе. Ажывіла хворага, што ляжаў на ложку. Ён хацеў павярнуцца к сонцу, прыўстаў на руках, але з лёгкім стогнам упаў зноў. На стогны хворага ўбегла больнічная

сядзелка і лёгка перавярнула хворага тварам да сонца.

Сымонка, гэта быў ён, вельмі схудаў, але ўжо пачынаў ачуняць. Зашытая на грудзёх рана загойвалася. І ў адзін з дзён сядзелка расказала яму, як ён апынуўся на гэтым жалезным ложку, у гэтым сьветлым пакоі.

Знашлі яго цяжка параненым з куляй у грудзёх, добра што яшчэ міма сэрца прашла. Сяляне, што з гораду вярталіся, палажылі яго на сані і прывезлі ў вёску. Аб гэтым здарэньні далі ведаць у воласьць, адкуль прыехала міліцыя і фельчар. На другі дзень Сымонку напоўжывога адправілі ў горад на опэрацыю, дзе яму дактары вынялі кулю з грудзей, рану зашылі і сталі лячыць. Надзеі на папраўку мала было, але моцны мужыцкі організм выручыў. Праз тыдзень, другі выходзіць Сымонка з больніцы ў родную вёску.

Спатыкалі Сымонку з гораду ўсім сялом і старыя і малыя. Дзень выдаўся на дзіва прыгожы— вясна ў самым разгары была.

У гэты веснавы сонечны дзень прыемна ўхмылялася Сымонкавым вачом зелень палёў. Усьміхаліся Сымонку і сяляне, бо рады былі. Яшчэ мілей, яшчэ даражэй стаў для іх Сымонка пасьля нападу на яго. Амаль што не разадралі на часткі сяляне крамніка Андрона, калі крымінальны вышук знашоў забойцу Сымонкі па кулі, вынятай з грудзей Сымонкавых. Хаця і пакаяўся ва ўсім Андрон, а ўсё такі на 8 гадоў ў турму засадзілі яго.

Коопэратыву ў сяле не адчынялі,—чакалі Сымонку—правадыра, як абзывалі яны яго. Прыехаў Сымонка і, ня гледзячы на заказ дактароў спачатку многа не працаваць, узяўся, як і раней, за працу. Ажыла вёска.

Коопэратыў урачыста адчынілі. Пры адчыненьні сяляне сходам прынесьлі Сымонку ўзьдзячнасьць за тое, што ён працаваў і працуе, не шкадуючы сваіх сіл і здароўя, працуе для палепшаньня сялянскага жыцьця.

І прыемна слухалі сяляне адказнае слова Сымонкі. Гаварыў ён аб Кастрычніку, аб адбыўшыхся бойках на фронце ваенным, аб цяперашніх бойках на фронце гаспадарчым, аб горадзе і вёсцы, аб Леніне, які аддаў жыцьцё сваё для народу, і яго заветах, і ўрэшце аб тым, што Сымонка таксама аддасьць сваё жыцьцё, што ён будзе толькі жыць і працаваць для рабочых і сялян.

Слухалі сяляне, выказваліся ў адказ Сымонку і, трасучы барадамі, абяцаліся ісьці за Сымонкам, за партыяй.

Слухала і веснавое сонца радасную сходку, слухала вёска, слухалі палі.

Цьвіла вясна. Цьвіло жыцьцё ў вёсцы і йшло сваёю чаргою. Сеялі яравое.

**Н. Шавэка.**

# „Сьвяты калодзеж“

*(Адрыўкі з апавяданьня „На парозе“).*

I

...Вярнуўся Сьцёпка з паходу на досьвецe, ціхенька адчыніў адрынку, дзе спалі двое меншых яго братоў, Алесь і Юрка, і, не разьдзяючыся, мокры да ніткі, залез пад коўдру. Лежачы, разважаў аб падзеях гэтае ночы і аб выніках гэтых падзей. Сьцёпка адчуваў, што ён пераступіў нейкі нязвычайна важны рубеж. Тыя мысьлі, што вынікалі цяпер, яшчэ некалькі гадзін таму назад былі яму зусім незнаёмы, і сам ён у той час быў другім чалавекам. А ў вогуле-ж было такі няпрыемна. Праўда, Сьцёпка стараўся ўпэўніць сябе, што нічога благога ў яго паступку ня было. Ніякага бога няма, так цяпер усюды па школах кажуць, аб гэтым лекцыі чытаюць, аб гэтым па мітынгах крычаць. Бог, рай, той сьвет—усё гэта выдумкі, каб дзяржаць народ у страху і паслушэнстве.

Сьцёпка сагрэўся пад коўдраю і заснуў моцным сном. Ён спаў тады, калі на сяле пранеслася нязвычайная навіна. Яго бацька яшчэ раненька паехаў да вол'іспалкому па сваёй гаспадарскай справе.

Сьцёпку ўжо разы два будзілі яго браты. І толькі калі маці дачулася, што і яе Сьцёпка мае нейкае дачыненьне да „сьвятога калодзежа“, яна сама пашла ў адрынку і за справу абуджэньня ўзялася належным чынам.

— Дзе ты быў уночы, гад ты?

Сон Сьцёпкаў прашоў у момант. Па тону пытаньня ён пачуў, што на яго насоўваецца нейкая навала. Пачухваючы чупрыну, Сьцёпка прыкінуўся, што нічога ня цяміць, а сам думае, як адказаць мацеры, якую наогул выбраць лінію паводзеньня, і дзівіцца, што так скора раскрылася іх бязбожніцкая дзейнасьць.

— Дзе ты быў і што ты рабіў уночы, пытаюся?

— Нідзе ня быў!—груба адказвае Сьцёпка, сеўшы на пасьцелі.

— Праўду кажы, абібок!—насядае маці.

— Чаго ты расхадзілася, як тая квахтуха?! Дзе быў?—гуляў з хлопцамі.

1-я Ўсебеларуская мастацкая выстаўка.



Мастак Волкаў. Кастусь Каліноўскі.

— І не разьдзяваўся, валяч нягодны!.. Кажы, быў каля „сьвятога калодзежа?“

— Ці раз я там быў,—спакойна адказвае Сьцёпка.

— Ды ты мне зубы не загаварвай, бамбіза... Маці траціць усякае цярпеньне.

— Прызнавайся, гад, што рабіў каля „сьвятога калодзежа?“

Узяўшы пэўны тон, Сьцёпка вядзе яго і далей. І цяпер ён ужо так кажа:

— Што рабіў?—Комплексы і сухоты папу.

Маці аж чырванее ад злосьці: выяўна насьмяхаецца з мацеры, гіцаль. Яна ў збурэньні кідаецца на сына і таўчэ яго ў бок.

Сьцёпка таксама ўваходзіць у злосьць, але стрымлівае сябе і, каб больш дапячы мацеры, сьмяецца і кажа:

— Вось якраз тут сьвярбела, а ты мне пачухала.

— Гэрад ты, бязбожнік, кат. І ты катаваў Язуса, ручачку зламаў яму, а цяпер мяне ты катуеш... Ня будзе-ж табе дабра...—жорсткія словы кідала яму маці.

Сьцёпку няпрыемна было слухаць гэта, але тон вытрымлівае да канца і, калі маці пагразіла яму страшнымі карамі на тым сьвеце і на гэтым і, плачучы, выходзіла з адрынкі, ён кажа ёй:

1-ая Ўсебеларус. мастацкая выстаўка.



Мастак... Жанчына.

— Заплакала, падумаеш—проднАлог за цябе аддаў Езус твой!

Сьцёпка астаўся ў адрынцы адзін. Да сьлёз матку давёў. Э, да ўсё ўжо роўна.

Ён падняўся, вышаў з адрынкі, пастаяў трохі на прыгуменьні, а потым пералез цераз засаўкі і пасунуўся ў поле.

II

Адно для Сьцёпкі было ясна: цяпер ён за парогам бацькавай хаты. Таго, што зрабілася, назад не адробіш. Але трэба было нешта прыдумаць, знайсьці выхад з гэтага стану.

Ён адышоўся вярсты дзьве ад сяла, сеў на камень каля хвойніку і стаў думаць. Зайсьці яму дадому ці лепей на вочы бацьку не паказвацца, бо ўсё роўна бацька яго прагоніць? І яшчэ думаў Сьцёпка аб горадзе. Горад далёка—каля ста, а можа і сто вёрст з хвосьцікам. Па машыне не паедзеш: дзе грошы ўзяць? Астаецца адно: пяхотам па шпалах. Хоць можа і далей, але па чыгунцы ня зблудзіш. На дарогу трэба прыкінуць тры дні часу. Астаецца два вольных дні. Дакуманты, праўда, ёсьць. Вось толькі ад ячэйкі ўзяць пасьведчаньне. Яго цяпер напэўна дадуць з ахвотаю. Але ці браць яго? Пасьля ўсяго таго, што здарылася, гэтае пасьведчаньне ня хіліць яго. Яно набывае характар нейкага дакору. І ўспомніў ён матку сваю. За што пакрыўдзіў яе?.. А ў горадзе дзе ён прыткнецца? Гораду ён ніколі ня бачыў. У яго ўяўленьні горад прадстаўляецца нейкім бясформенным відам, дзе лёгка прапасьці.

Сьцёпка падняў вочы ў бок сяла і стаў угледацца: па іржышчы борзда да яго рухаліся дзьве фігуркі двух вясковых хлопцаў. Гэта былі яго меншыя браты, Алесь і Юрка. Алесь бег бяз шапкі, шапка была ў руцэ. Відаць, Алесь штось нёс у шапцы. Калі браты дабеглі да Сьцёпкі, то яны моцна затаміліся ад шпаркага бегу, але твары іх былі вясёлыя. Яны былі рады, што знашлі Сьцёпку. У шапцы аказаліся дзьве грэцкія пухаўныя аладкі, зложаныя папалам, а між іх была досыць дзябёлая скварка.

Сьцёпка павесялеў, убачыўшы братоў. Можа з тае прычыны, што ён быў у такім адзіноцтве.

— Гэта вы самі іх узялі?

— Не,—адказалі браты.

— Маці дала?

— Не.

— Дык скуль-жа вы ўзялі іх?

— Аленка Андрэевых прыслала,—разам сказалі хлопцы.

Для Сьцёпкі гэта было поўнаю нечаканасьцю, і ён пранікся нязвычайнаю падзякаю да Аленкі. У ім узьнікае моцнае жаданьне пабачыць Аленку і падзякаваць ёй за гэта. Аленцы асталося пабыць апошні год у сямігодцы, і яна скора паедзе. Калі сёньня-заўтра не пабачыць яе, то калі сустрэне яе і ці сустрэне?

Сьцёпку хочацца распытаць аб Аленцы, але яму было трохі неяк сорамна. І ўсё-ж такі ён запытаўся:

— А дзе-ж вы яе бачылі?

— Яна сустрэла мяне на вуліцы,—сказаў Алесь,—і спытала, дзе ты і што з табою было... Комсамольцы, брат, паўцякалі—біць іх хацелі.

— А бацька прыехаў?

— Прыехаў.

— А ён ведае... пра „сьвяты калодзеж“?

— Маці сказала, і ўсе сказалі.

— А ён што?

— Нічога. Сярдзіты.

Сьцёпка адламаў кусок аладкі і стаў есьці.

— Можа вы па кусочку зьелі-б?

— Не,—разам адказалі меншыя браты і галовамі затрэсьлі.

Сьцёпка падзакусіў, распытаўся аб вясковых навінах.

— А ты, Сьцёпка, дадому прыдзеш?—запытаў Юрка.

Алесь і Юрка ўставілі вочы ў Сьцёпку і чакалі, што ён скажа.

— Сёньня я дома начаваць ня буду. Заўтра прыду—не надоўга, але прыду. Так і скажэце дома бацьком.

— А дзе-ж ты начаваць будзеш?

— Глупства! зайду дзе-небудзь у клуню і перачую ў сене.

Алесь і Юрка заспакоіліся.

Усе тры браты замоўклі. Кожны штось думаў сам сабе.

— Ну, мы пойдзем дадому,—нарушыў гэтую маўклівасьць Юрка.

— Ідзеце, ідзеце,—азваўся Сьцёпка:—бо ўжо вечар. Вось што, браткі, калі ўбачыце Макарку Лагуновых, то няхай ён мне паперку напіша—ён ведае якую... Не, лепш ня трэба—абыйдзецца.

Сьцёпка крыху замяўся.

— Пабачыце Аленку, падзякуйце яе ад мяне за аладкі.—І, памаўчаўшы яшчэ, сказаў, ня гледзячы братом у вочы: — Я заўтра буду ў Рэмусавай луцэ,—з раніцы, калі раса ападзе. Скажэце Аленцы, няхай яна прыдзе туды... ну, кнігу мне

прынясе. А вы мяне ня шукайце: я сам прыду дадому.

— Добра,—сказалі браты.

На гэтым яны разышліся.

---

Раненька вышаў Сьцёпка з Дзямянавай клуні. Пашоў загуменьнем у хвойнік, павярнуў і хвайнякамі пашыбаваў у Рэмусаву луку. Выбраў там добрую позыцыю і стаў чакаць Аленку.

Сонца падымалася нейк марудна, раса ападала паволі. Можа яна ў гэтую раніцу ападала-б і вельмі доўга, каб Аленка ня прышла раней тэрміну.

Сьцёпка замеціў яе здалёк. Ішла яна борзьдзенька, паглядаючы па баках. Цяпер яна была ўжо ладненькая дзяўчынка на шаснаццатым годзе. Яна ведала, што на яе пачынаюць заглядацца, і гэта надавала ёй пэўнай гордасьці.

Добраю, прыветнаю ўсьмешкаю спаткала яна Сьцёпку.

— Ну, як маешся, богаборац?

Як зразумець такое прывітаньне?

Няўжо-ж і яна праціў яго?

Але Сьцёцка даведаецца з далейшае гутаркі.

Ён хоча захаваць сур'ёзнасьць, нават значную жорсткасьць, як і належыць усякаму, хто пашоў адзін праціў усіх. І ён панура адказвае:

— Да вось, цягаюся, як воўк, адзін.

— Бедны ты, Сьцёпка, мне так цябе шкада.

Сьцёпку, з аднаго боку, прыемна, што Аленка пашкадавала яго, але калі на справу глянуць з пункту геройскасьці, то гэтае шкадаваньне траціць усякаю цану, і яно тут зусім не на месцы. Ён выступіў праціў бога і праціў людзей, а яго шкадуюць. Не шкадаваць — спачуваць толькі можна тут. І нават учарашнія грэцкія аладкі, што прыслала яму Аленка, паказваюцца цяпер Сьцёпку да некаторай ступені абразаю для яго бунтарскага духу.

І Сьцёпка адказвае:

— А чаго тут шкадаваць, Прапашчы я ці што? І ўміраць яшчэ я ня зьбіраюся.

Гаворыць Сьцёпка і на Аленку не глядзіць, каб па вачох яго не пазнала, што ён трохі туману напускае.

— А што-ж ты далей рабіць будзеш?

У Сьцёпкі ёсьць адказ і на гэта пытаньне, але ён хоча фасон дзяржаць і трагічна заяўляе:

— У бандыты пайду.

Аленцы страшна робіцца ад гэтых слоў. Яна пужліва глядзіць на Сьцепку, а Сьцёпка на Аленку зірнуў. Ён бачыць, што ў яе прыгожыя бровы і такія слаўныя вочы, як-бы ён іх першы раз убачыў. Ад гэтага погляду Аленчын страх праходзіць. Яна адгадвае больш, чым ён сказаць ёй хоча.

— А каго-ж ты забіваць будзеш?—умее прыкінуцца і Аленка.

А Сьцёпка і не падумаў, каго-ж, і праўда, забіваць ён будзе.

— Тых, хто ўпоперак дарогі мне стане,—яшчэ больш панура адказвае Сьцёпка.

Аленка перамагае ўсьмешку, гатовую закрасавацьна яе сьвежанькіх губках. Хіліць трохі на бок русавую галоўку і пытае:

— Ну, а калі-б я стала ўпоперак твае дарогі?

Аленка стараецца захаваць сур'ёзнасьць, губкі яе строгі, а ў вачох сьмех руніць.

Мімаволі і Сьцёпкавы губы расчыняюцца для сьмеху. Ну, што-ж бы яму рабіць з ёю, каб яна яму ўпоперак дарогі стала? І ня гэта хацеў сказаць Сьцёпка Аленцы. Ён чуе фальшывы тон, які ён сам даў іх гутарцы. І ці можна думаць, што Аленка праціў яго, калі яна прышла сюды.

А Аленка весела засьмяялася, зрывае з яго галавы шапку, кудлачыць яму валасы.

— Ой, які-ж ты, Сьцёпка, сьмешны! А ці ты ведаеш, што каля „сьвятога калодзежа" паставілі новы крыж? І зруб новы паставяць. А каб вы не чапалі яго, то ён, напэўна, збуцьвеў-бы там, і ніхто-б яго не аднаўляў. Ну, і што-ж вышла? Твой бацька казаў пры людзях, што ня пусьціць цябе ў дом.

Апошнія словы балюча кальнулі Сьцёпку, хоць гэтага ён і спадзяваўся ад бацькі.

Аленка глядзіць на Сьцёпку спачувальна.

— Трэба падумаць, што рабіць табе.

— Я ўжо думаў. Сёньня я пайду ў Менск.

— Пяхотам?

— Так, на сваёй пары паеду.

Аленка засмучана апускае галаву.

— Ну, а як-жа... А грошы ў цябе ёсьць?

Бяз грошай пайду.

— А дадому ты зойдзеш?

— Зайду.

Аленка штось думае.

— Ня пусьціць цябе бацька—прагоніць.

— Вось дзеля гэтага я і пайду, бо калі не зайду, то выйдзе, што я сам кінуў бацькоў.

— А ты як-небудзь паладзь з бацькам.

— Потым паладзім, а цяпер ладу ня будзе.

— Як гэта ўсё нядобра зрабілася,—прамовіла Аленка.

— А што-ж тут нядобрага? Разбурылі ўсё і ніякі бог не пакараў. А што з старымі нялады вышлі—глупства, паладзім.

Некаторы час Аленка і Сьцёпка маўчалі.

— Ну, што, Аленка: пойдзем,—сказаў Сьцёпка,

Прашлі яны хвойнікам, баравікоў трохі знашлі. а недалёка ад сяла разьвіталіся.

Аленка пашла адна. Канцы расплеценых кос на ветры калыхаліся. Сьцёпка глядзеў на яе, каля хвойніку стаяў. Аленка прашла крокаў дваццаць, азірнулася і сказала:

— А той верш гэта я пра цябе напісала.

І, не азіраючыся болей, борзда-борзда ў сяло пашла.

---

Счакаўшы некаторы час, пашоў і Сьцёпка. Пералез цераз засаўкі і з прыгуменьня ў хату пашоў.

А бацька чакаў яго ў хаце—меншыя сыны папярэдзілі. Строгі і цьвёрды чалавек Міхайла Барута, але трохі затраслося ў ім, калі непакорны бацькавай волі сын на парозе паказаўся. А маці за хвіліну перад гэтым маліла яго не рабіць калатні.

Пераступіў парог Сьцёпка, шапку зьняў.

„Прасіцца будзе", думае Міхайла, і гнеў, што быў улёгся ў ім, зноў пачаў падымацца. Спакойна запытаў сына:

— У комсамол запісаўся?

— Не, не запісаўся,—сьмела зірнуўшы ў вочы бацьку, адказвае Сьцёпка.

— А бацьку ты паслухаў?

На гэта пытаньне Сьцёпка прамаўчаў.

*(Працяг глядзі на 3 ст. вокладкі).*

# ВЕРШЫ

## СЯРГЕЙ ДАРОЖНЫ



* * *

Месяц сьцеле ў палёх цемнату,
Далавах рассыпаюцца цені.
Ой, ці дым, ці туман на ваду
Пасьцілае кустоў шапаценьне.
І суздром назялёнены клён
Стан закінуў над возерам чыстым.
Толькі зораў зыбучы агонь
Над вадою цярусіцца—лістам.
Каб не гадана, скрозь цалаваць
Голь вады, што разьлілася ў хвалі..
Ў сінь упала лясоў галава
А мая асмуглелаю стала.

* * *

Але ў полі вясна такая:
Скрозь дыміцца чаромхавы пах.
Ах, ты радасьць, цябе сустракаю
І цалую на гібкіх руках.
Усю душу маю, мары і цені
Аддаю на вясельле вясьне,—
Каб і мне, сярод іншых, хацелася
У серабрысты рассыпацца сьмех,
Я іду, а бярозавы шум
Пасьцілаецца ў сіняй траве,
Міла веюць лісточкі расу
На зялёнай кустоў галаве.
І таму я сягоньня вясёлы
Рассыпаюся ў воплескі слоў,
Што ў палёх за бярозкамі сёлы
Патанулі ў разводзьдзі жытоў,
Што радзімыя далі цьвітуць
Над крыніцамі чыстай вады,
Толькі сосны пад ветрамі тут
У залаты нарадзіліся дым.
І таму—ці што я з Гародні,
Ці таму, што я быў дзіця,
Усе сады, і ўсе агароды
Ведаў колісь напамяць я.
І жыцьцё мне здавалася простым,
Бы туман у даліне пустой,
Толькі чуецца блізкая ростань...
І—адходныя гімны кустоў.

24/V-26 г.

* * *

Першы раз так зьвінелі клёны,
Расьцвіталі так першы раз,—
Пад агнём разьлілася зялёным,
На вазёрах крывёю, зара.
І сьляды нечых ног у траве,
Сьцежкі мілыя, скрозь арасілі,
Толькі мне з-пад завеі брывей
Неба здалася: сіняе, сіняе...
І я чуў, як на чорную галаву
Мне праліласе наская сінь,
І здавалася сэрцу, што холадна
Абсыпаліся з плеч валасы.

* * *

Я ня ведаў, чаму так пакорна
Можа гнуцца траве вербалоз...
І нягадана дзеўчыну ў чорным
Палюбіў за імглістасьць валос.
Палюбіў пад завеямі вішань
Яе стан і вачэй чарэсьні.
. . . . . . . . . . . . . . .
Хто ня бачыў інакшых узвышшаў,
Той душу разьлівае на песьні.
І на ўсё ёсьць свае законы—
Расьцьвітаць і увосень вянуць...
Павясеньняму я, у паклонах,
Сустракаю лясы і паляны.

* * *

Лісьцяў сыплецца сіні агонь,
Нізка, нізка ў бярозавым садзе.—
Расьцьвіту быццам клён галавой
І душою ня буду падаць.
Ад таго у вішнёвую цьвецень,
Калі сонцам нализаны сосны,
Усё жывое і мілае ў сьвеце,
Гэта толькі—вясёлыя госьці.
Дык навошта мне мысьлі веяць,
Галаву пахіляць так нізка...
Сьнег пялёсткаў дыміцца веямі
І за садам цярусіцца блізка.

Ой, навошта радзімыя далі
Расьцьвілі пазалотаю ніў,
Зелёнакосую бярозку—Валю
Я тады сустракаў і любіў.
І бывала ў вечар чорны,
Калі цені над травамі спалі,
Я вясёлы і зусім пакорны
Цалаваў яе лісьце-каралі.

А яна пахілялася станам,
Сьлёзы капалі медзьдзю ў пясок,
Што пайду я адзін на расстаньне
Па травы залатых валасох.
Што сьляды мае цені пакрыюць
І пяском пазаносяць вятры...
На расстаньні лісты гаварылі
Залатым языком зары.

20/V-26 г.



# Моладзь, на барацьбу за здароўе!

У працягу шмат гадоў гінулі людзі ад розных заразных хвароб, гінулі, а ніхто ня ведаў, скуль бярэцца гэты вораг. Шмат людзі патрацілі энэргіі, каб пазбавіцца ад страшнага госьця. У сярэдния вякі запальвалі кастры, званілі ў званы, абы толькі забараніць сябе ад яе напасьці. Па думках людзей таго часу выходзіла, што гэта ўсё ад вышэйшага, што бог карае за грахі, пасылае на іх розныя хваробы. Каб пазбавіцца ад хвароб, людзі даўнейшых часоў будавалі царквы, прыносілі розныя ахвяры багом, стараліся ўсімі сіламі задобрыць бога ахвярамі, абы толькі ён спыніў хваробу.

Яшчэ і ў сучасны момант на вёсках мы бачым пабудаваныя капліцы, пастаўленыя крыжы, дзе сходзяцца дзьве разам дарогі,—гэта відаць, што некалі, як праходзіла якая-небудзь эпідэмія, людзі ўсяе вёскі закладалі ў памяць яе помнікі: або крыж паставяць, або капліцу, як толькі хвароба згіне. Няпісьменнае цёмнае сялянства яшчэ і па гэты час верыць у тое, што калі захварэў чалавек, скаціна, то гэта спадзіву, што нехта падзівіўся. Калі карова малака не дае, таксама суседка вінавата, якая займаецца чарадзействам. Так мысьліць някультурны селянін вёскі.

А то бывае і так: захварэе конь, карова, селянін наймае абедню таму сьвятому, які больш яму „дапамагае". І з усіх сіл пнецца ўносіць паі, ставіць сьвечкі, усё адмальвае яе хваробу. Доўга так цягнулася, пакуль селянін ня ўбачыў і паверыў, што ніякія ні папы, ні знахары яму не памагаюць, ён зьвяртаўся да навукі; і звычайна тады, як хвароба запушчана, вядома, што лячыць яе куды цяжэй, чым на скорую руку.

### Якая-ж прычына хвароб?

Навука нам кажа, што людзі хварэюць не ад таго, што яны богу ці якому-небудзь сьвятому „Мікалаю чудатворцу" не ўгадзілі, а ад таго, што мы жывём у нячыстотах, ня ўмеем за сабою глядзець. Калі мы пачнем разглядаць рвоту або макроту хворага чалавека пад мікроскопам, то мы ўбачым там шмат маленькіх жывых істот. Гэтыя маленькія істоты знаходзяцца і па ўсім нашым целе і завуцца яны *мікробы*.

Вось гэтыя мікробы і ёсьць першы зачатак нашых хвароб. Яны разносяць розныя хваробы сярод людзей.

Адзін вучоны, Пасьцер, займаючыся адшукваньнем гэтых мікробаў, даказаў, што яны ня толькі ёсьць у чалавека, а і ў паветры, лясох, вадзе, мясе, у іспражэньнях хворых і г. д. Усе мікробы засяляюць мокрыя гнілыя мясцовасьці і ня любяць сухаты. Размнажаюцца мікробы дужа шпарка. Пасьля падліку вучоных аказалася, што калі ня будзе аніякіх перашкод у іх разьвядзеньні, то за суткі мы будзем мець столькі мікробаў, што іх целамі можна нагрузіць 30 вагонаў. Але гэтага ніколі ня бывае, большасьць іх гіне ад сьвету, холаду, у барацьбе за харч і г. д.

Мы бачым, што заразу разносіць сам хворы чалавек. Заразу гэтую хворы передае здароваму рознымі спосабамі: праз *паветра, ваду, начыньне, адзежу* і нашую *скаціну* і *мошкі*. Цяпер разгледзім кожны паасобку прызнак. Праз паветра чалавек заражаецца такім чынам: у той час, як ён кашляе, з сярэдзіны ў паветра разам з макротаю вылятае шмат маленькіх капелек. Вось гэтыя маленькія капелькі носяцца ў паветры і ўдыхаюцца чалавекам. Там яны прыліпаюць к легкім, чалавек хварэе на сухоты. Мікробы таксама пападаюць і ў ваду. У нас надта дрэнная прывычка, а асабліва ў жанчын, мыць розныя вопраткі, анучы каля калодзежа, высыпаць і выліваць розныя памыі таксама без разбору.

Там, дзе калодзеж няглыбокі, а к таму яшчэ дзіравы, вада памыйная сьцякае ў яго. К таму яшчэ прыкмячаецца, што ў вёсцы пры калодзежы няма агульнага вядра, а кожны ідзе з сваім, і можа якраз у той хаце хворы карыстаецца гэтым вядром, а тут яго абмые, і пасьля яго бярэ другі селянін. Мухі таксама шмат разносяць хваробы. Пасьля розныя рэлігійныя абрады, як хрышчэньне, цалаваньне ў адну ікону і крэст соцень людзей, прычашчэньне сотні людзей адною лыжкаю, абразаньне, якое робіцца ў яўрэяў, цалаваньне на вялікдзень, курэньне з аднае трубкі, усе гэтыя прыкметы зьяўляюцца рассаднікам заразных хвароб.

Пазбавіцца ад розных хвароб можна толькі праз навуку і яе вопыты. Ніякія іншыя нябесныя дактары ў гэтым не памогуць. Гэтую навуку—гэты сьвет вёсцы павінна даць наша перадавая сялянская моладзь, праз наладжаньне гутарак, лекцыі доктара і праз практычную санітарную кампанію за заваёву чыстаты.

**З. Малевіч.**

# Моладзь і здаровы быт

Вясковая моладзь у сваёй штодзеннай працы заўсёды павінна памятаць правілы для аховы свайго здароўя, быць знаёмай з тымі асноўнымі ведамі гігіены—г. зн. навукі, якая выручае ўмовы, уплываючыя на здароўе чалавека, і паказвае сродкі для зьнішчэньня ўсяго шкоднага для організму.

Папершае, трэба памятаць аб правільным раскладзе дню. Сон не павінен быць болей 8 гадзін: трэба раней уставаць і ня вельмі позна класьціся спаць. Сьнеданьне, полудзень ці вячэра павінны адбывацца заўсёды ў азначаны час. Галоўнае, на што павінна вясковая моладзь зьвярнуць увагу—гэта трымаць чыстаю скуру. Наша скура дыхае і бруднасьць яе вядзе да затыканьня сітавін (пораў), ад чаго і здараюцца розныя хваробы. Дзеля гэтага, для падтрыманьня чыстаты свайго цела, трэба часьцей хадзіць у лазьню. Здорава яшчэ таксама абціраць цела хатняю вадою. Неабходна таксама сачыць за чыстатою ў хаце. Менш бруднасьці, пылу, дыму і г. д., бо ўсё гэта вядзе да хваробы.

Чым лепей цела загартавана, чым лепш разьвіта мускулатура, тым больш даных за тое, што чалавек не захварэе. Адсюль выплывае практычная задача—гэта займацца фізкультураю. Дрэнна, што да гэтага часу вясковая моладзь глядзіць на фізкультуру, як на пацеху і забаву. Фізкультура вядзе да аздараўленьня і падыйманьня, якія моладзь траціць ў сваёй працы.

Апрача гэтага, ад фізычнага стану чалавечага організму, ад здароўя залежыць таксама і продукцыйнасьць у працы. Продукцыйнасьць павялічваецца, калі праца чаргуецца з невялічкімі на працягу дню адпачынкамі.

У часе кароткага адпачынку, напружанае выгінаньне, вярчэньне тулава, прысяданьне і г. д. на сьвежым паветры зробяць правільны зварот крыві, цела аслабаняецца ад атрутных продуктаў, якія набраліся ў целе ў час працы.

Моладзь павінна скарыстаць натуральныя сілы прыроды—паветра, сонца і ваду. Многія хаты не праветрываюцца; вокны на зіму забіваюцца і не адчыняюцца, што перашкаджае прытоку сьвежага паветра. Вокны большаю часткаю завешаны фіранкамі. Усё гэта зноў такі вядзе да хваробы.

Для таго, каб зьнішчыць усё тое, што перашкаджае, шкодзіць нашаму здароўю, каб моладзь была здароваю, Савецкаю ўладаю зьвернута на гэта вялікая ўвага. Але гэтага мала. Моладзь сама павінна дапамагаць актыўна і прыняць актыўны ўдзел у стварэньні здаровага быту.

Доктар **Е. Калітоўскі.**

---

# Моладзі аб здароўі

1. Моладзь! Тваё жыцьцё ўперадзе, ты павінна ведаць, як трэба жыць, каб тваё здароўе было моцным, а жыцьцё доўгім.

2. Выконвай тое, што тут напісана, і ты дасягнеш гэтай мэты.

3. Сну адводзь ня менш 8-мі гадзін і ня больш 9 гадзін.

4. Перад сном прывучыся мыць рукі, твар, абмываць грудзі і сьпіну і мыць ногі.

5. Калі матка ці бацька запамяталі перад сном праветрыць хату, адчыні дзьверы або вакно і рабі гэта цэлы год.

6. Кладучыся спаць, здымай верхнюю адзежыну і правет-ры яе.

7. Дамагайся ад бацькоў, каб яны зьнішчылі агульны палок і зрабілі-б паасобныя ложкі або тапчаны.

8. Калі сьпіш, дык ніколі не накрывай галаву коўдраю, дай лёгкім дыхаць чыстым паветрам.

9 Як толькі прачнуўся, адразу-ж уставай, а не валяйся ў ложку.

10. Устаўшы, вычысьці верхнюю вопратку і абутак, вымый, як належа быць, твар, рукі, шыю, абмый грудзі і сьпіну, і нават усё цела; рабі гэта



кожны дзень.

11. Не паеўшы, ня прымайся ні за якую працу.

12. Што-б ты ні рабіў, трымай тулава прамым, не апускай галавы і ня сьціскай плячэй, бо ў такім становішчы лягчэй дыхаць і правядлівей.

13. Дыхай заўсёды носам, а ня ротам і аднолькава.

Скончыўшы працу, памый твар і рукі, рабі гэта кожны раз перад ядою.

15. Раз у тыдзень абавязкова схадзі ў лазьню, а летам кожны дзень купайся, але ня болей 2-х разоў у суткі, раніцою да 11 гадзін, днём пасьля 3-х гадзін полудню.

16. Навучыся абавязкова плаваць—гэта лепшае фізычнае практыкаваньне для організму і ў жыцьці табе неабходнае.

17. Адучыся ў грамадзкіх мясцох, у школе, на вуліцы, у клюбе брудзіць, пляваць, лушчыць сонешнік, курыць,—усё гэта атраўляе організм.

18. Кожны тыдзень мяняй бялізну.

19. Каб тваё цела было моцным, здаровым, рухавым—займайся фізычнымі практыкаваньнямі, для чаго запішыся ў фізычны гурток.

# НАША ЖЫЦЬЦЁ

## Бярэце прыклад!

### Як мы змагаліся за зьнішчэньне гуртку карцёжнікаў.

*(В. Заказінец, Смалявіцкага раёну, Меншчына).*

Уперад у нашай вёсцы, як толькі сьвята якое, дык усе за карты, і моладзь і старыя. І есьці дамоў ня прыходзілі, калі забяруцца ўжо куды гуляць. Сумна было ў вёсцы. Сабяруцца і рэжуцца ад раніцы ды да вечара, ато і да поўначы.

Але вось комсамольцы з беспартыйнымі перадавымі хлопцамі організоўваюць сельска-гаспадарчы гурток. Добрай пастаноўкай працы ўцягнулі ў яго ўсё сялянства. Організоўваюць драмгурток, у які ўцягваюць моладзь. Агледзіліся усе, што картамі няма калі і займацца. Як толькі сьвята,—на заняткі сельска-гаспадарчага гуртка трэба ісьці. Там газэты, кніжкі, часопісі чытаюць. Ато кожны апавядае, як што лепш рабіць у гаспадарцы, з уласнай практыкі. Тут і такія цікавыя гутаркі аб трактары, колхозах. Усё жыцьцёвае!

Але моладзі яшчэ мала гэтага, дык тут драмгурток дапамог. Рэпэтыцыі, новыя вячоркі з спэктаклямі не пакідалі вольнай гадзінкі дзеля карт. Гурток карцёжнікаў разваліўся.

Праўда, яшчэ некалькі заядлых карцёжнікаў хацелі аднавіць гэты гурток, але іх так лоўка прадзёрнулі ў сваёй насьценнай газэце, што пасьля гэтага з іх кожны сьмяяўся. Цяпер, калі хто прапануе пагуляць у карты, то другі скажа: „Глядзі, павісіш на сьцяне“.

**Янка Кім.**



## Вучыліся і працуем.

*(Капыльская Белсямігодка).*

Пры нашай Белсямігодцы да гэтага часу знаходзіўся плян неапрацованае зямлі. І вось яшчэ ў мінулую восень было абгаворана пытаньне аб пасадцы саду. Сказана—зроблена. Усе вучні разам з настаўнікамі пакапалі пад сад ямы. А ў весну г. г. ўсёю сямігодкаю была зроблена экскурсія ў саўхоз Канорычы, адкуль і прынесьлі дрэўцы. На другі дзень пад кіраўніцтвам агронома ўсе дрэвы былі пасаджаны у належным парадку.

І ў сучасны момант Капыльская Белсямігодка мае свой сад, ад якога з прагам часу будзе мець вялікую карысьць.

Вучні: Цімашок **Ракіта** і Міхалка **Барадзьбіт.**

## Вучымся сельскай гаспадарцы.

*(Койданаўская сямігодка).*

Пры школе організаваны с.-г. гурток. На занятках гуртка праходзім: як апрацоўваць глебу, травасеяньне і інш 5-ая кляса ўзялася апрацоўваць агарод па праграме, пройдзенай у школе. Будзем чакаць вынікаў.

**М. Д.**



## І навічкоў уцягнулі ў працу.

*(Балотнянская ячэйка ЛКСМБ, Магілеўшчына).*

Да апошніх перавыбараў бюро ячэйкі у нас ня ўсе комсамольцы былі нагружаны саюзнай працай, а старыя дык шмат нясьлі абавязкаў і былі перагружаны працай. Цяпер усіх уцягнулі і ўсе за працай. Не найдзецца ні аднаго комсамольца, каб быў без нагрузкі. Актывістым палягчэла.

**Ф-ў.**

## На шосты год.

*(Стара-Барысаў, Варынецкі с.-г. тэхнікум, яч. ЛКСМБ).*

Пяць год існуе Стара-Барысаўская яч. комсамолу. Прашло шмат цяжкіх момантаў працы. У сваім складзе ячэйка налічвае 82 чал., а ў прошлы год у гэты час мела 28 чал. 60 проц. слухачоў у шэрагах ячэйкі. Але ня толькі колькасьцю, але і якасьць ячэйкі, яе працы гэтак сама відна. Комсамольцы ўсе займаліся ў політгуртках і г. д.

Асаблівыя дасягненьні гэтай працы ў вёсках, дзе на першым месцы стаіць с.-г. пропаганда. Ячэйка ў вёсках мае 3 сельска-гаспадарчыя гурткі, у якіх зімою праводзілася досыць добра тэорычная праца, а зараз перашлі на летнюю практычную працу, заклаўшы шмат пробных вучасткаў.

У гуртках ахоплена 95 чалавек сялянства.

**Культасьветная праца.**

Ячэйка мае ў вёсках 2 політгурткі і 1 культасьветны гурток. Гуртком па ліквідацыі няпісьменнасьці выпушчана 21 чал. і ня скончылі 50 чалавек.

**Жаночая праца.**

Ячэйка прымала ўдзел у дэлегацкіх жаночых сходах і разам з гэтым у гуртках сярод дзяўчат. Кіруе і працуе ў піонэратрадзе, які налічвае 31 чалавек. Аніводная кампанія не праходзіць бяз увагі ячэйкі. Усё праводзіцца і ў першую чаргу ў вёсках. У кампанію МОПР'у організавана 3 ячэйкі МОПР'а, якім і дапамагаецца ў працы.

У вёсках праводзяцца дні сялянскай моладзі і дні дзяўчыны. У працы ў вёсках занята 45 комсамольцаў; вясковых хлапцоў у ячэйцы налічваецца 30 чалавек. Але ёсьць і недалікі:

1) Ня вельмі добра пастаўлена праца ў самым тэхнікуме.

2) Малы ўзрост за кошт дзяўчат вёсак.

**Мік. Гаеўскі.**

## З'організавалі ячэйку Комсамолу.

*(Будзіка, Дрыбонск. р. Аршанскай акругі).*

У нашай вёсцы моладзь даўно імкнулася з'організаваць ячэйку комсамолу, дзе і было тры комсамольцы, якія таксама жадалі з'організаваць ячэйку, бо сельсавецкая ячэйка далёка ад нашай вёскі (6 в.).

Райком гэта прыняў пад увагу і ў маі месяцы прышоў політасьветчык райкому дзеля організацыі ячэйкі. Сьвядомая моладзь была рада, а „барадачы“ семідзесяцігодпія глядзелі скоса, кажучы, што прыехаў „антыхрыст“ дзеля падгаварваньня ў „комсамол“.

Праз тыдзень ужо маецца чатыры заявы ад моладзі ў ЛКСМ. Мы спадзяемся, што мы будзем расьці ня толькі колькасна, але і якасна. Ніякія „барадачы“ не памяшаюць нашай працы.

**Ц. Рублёў.**




## Комсамольцы падымаюць гаспадарку.

*(Каменская яч. ЛКСМБ Узьдзенскага раёну).*

Зімою ў нашай ячэйцы працаваў сельска-гаспадарчы гурток, а на вясну мы парашылі зрабіць паказальны агарод у комсамольца—самастойнага гаспадара. Парашылі—зрабілі. Перад падрыхтоўкаю глебы паклікалі агронома, які зрабіў лекцыю, а пасьля, калі быў час садзіць, агроном таксама зьявіўся з насеньнем і ўгнаеньнямі. На комсамольскім агародзе мы, пад кіраўніцтвам агранома, насеялі: турнэпсу, буракоў і морквы Сяляне казалі, „вось калі моладзь возьмецца за працу і не панашаму, а пакніжнаму і з вучонымі людзьмі“.

Комсамолец.



## Прыстасоўвайце сельска-гаспадарчыя веды на практыцы.

Шмат у якіх вёсках былі сельска-гаспадарчыя гурткі, большы процант у іх складалі комсамольцы. І вось прышоў час, калі атрыманыя веды ў сельска-гаспадарчых гуртках павінны быць прыстасаваны на практыцы. У гэтых адносінах вялікая задача кладецца на комсамольцаў.

Комсамолец—гэта перадавік вёскі; трэба, каб ён і на сваёй гаспадарцы быў першым і скарыстаў усе веды, набытыя ім у с.-г. гуртку.

Праўда, вялікаю перашкодаю ў гэтых адносінах зьяўляюцца бацькі, якія не дазваляюць комсамольцам самастойна працаваць на гаспадарцы і часта сьмяюцца:—„малакасос, яшчэ задумаў мяне вучыць старога“. З гэтым бязумоўна трэба сьвядома змагацца шляхам растлумачваньня карысьці ад культурнага вядзеньня гаспадаркі.

Але ёсьць і такія комсамольцы, якія зьяўляюцца самастойнымі гаспадарамі і якія і павінны паказаць на сваёй гаспадарцы прыклад другім.

Карысьць з гэтага будзе вялікая, бо тады сяляне навочна ўбачаць карысьць сельска-гаспадарчых гурткоў, і самі з ахвотаю запішуцца ў іх.

Апрача гэтага, юнкоры павінны больш зьвярнуць увагі на высьвятленьне ў друку працы сельска-гаспадарчых гурткоў, на колькі сябры іх практычна прыстасоўваюць набытыя веды на сваей госпадарцы і інш.

З. Бульбянік.

## Вось гэта дык „зацікаўленасьць“ і „кіраўніцтва“.

*(Каменская ячэйка ЛКСМБ Узьдзенскага раёну).*

У Каменскім камітэце ўзаемадапамогі старшынёю комсамолец. Працуе ён ужо 6 месяцаў, а бюро ячэйкі і не падумала, каб паставіць яго справаздачны даклад на агульным сходзе, пакуль сам ён не папрасіўся зрабіць гэта. З тэтым бюро згадзілася. Паставілі пытаньне ў парадак дню, але як прымалі парадак, дык большасьць комсамольцаў закрычэла: „Ня трэба нам гэтага дакладу“. Гэтак і правалілі.

Вось гэта дык зацікаўленасьць і кіраўніцтва!—піша ў „Араты“

Зацікаўлены комсамолец.



## Сядзім у мора і чакаем надвор'я.

*(В. В.-Крушынаўка, Рагачоўскага раёну)*.

Шмат па вёсках комсамольцаў працуюць, раз'язджаюць па раёну, ставяць даклады, зацягваюць моладзь у рады ЛКСМБ, а ў нас дык наадворот—за 8 год савецкай улады нават ня было праведзена аніводнай гутаркі наконт таго, якія задачы ставіць прад сабой комсамол, што дае яго комсамольцу, у выніку чаго моладзь ня ўцягнута ні ў якую культпрацу, увесь час праводзіць за скокамі, п'янствам, байкамі і г. д., а грунт для гэтага ёсьць. Шмат хлапцоў даўно кінула гэта разгільдзяйства, цікавіцца газэтай, давядваецца у „чырвоны куток“, у гурток беларусазнаўства. Дзе-ж прычына такому дрэннаму становішчу?

Яе можна знайсьці ў нашых ваколічных ячэйках, якія як-бы замкнуліся ў сваіх вёсках. Яны лічаць, што трэба толькі там працаваць, дзе ёсьць ячэйка, а наваколхоць трава не расьці. Трэба Азяранскай, Ціхінскай, Даброцінскай ячэйкам зьвярнуць увагу і на В.-Крушынаўку, скарыстаць свабодныя дні для саюзнага дня і зацікавіць моладзь тэй працай, якую праводзіць комсамол, каб тады быў грунт для організацыі ячэйкі ЛКСМБ. Толькі пры пастаноўцы так пытаньня нашы ячэйкі адыграюць тую важную ролю, якая неабходна для будаваньня новага жыцьця.

Юнкор Я. М. Савіцкі.

## Адным жарты, другім сьлёзы.

*(В. Гудовічы, Сьмілавіцкага раёну)*.

Загнаны скардзіцца „Маладому Аратаму“, што ў іхняй вёсцы праз буянства іхніх „разыкантаў“—Цярэшкі Мазаля, Янкі Шчэрбака, Цімоха Шыдлоўскага, Радзівона Таболіна і Арцёма Мазаля рэштцы хлопцаў і дзяўчатам прыходзіцца пераносіць зьдзекі і сьлёзы.

Ці-ж ня сорам вам хлопцы буянствам займацца?



## Культурна-асьветная праца на начлезе.

*(Аршанская акруга, Дрыбінскі раён, Суслаўскі с.-с., Будзінская ячэйка ЛКСМБ)*.

Дрыбінскі райком ЛКСМБ прапанаваў усім ячэйкам скарыстаць начлег для культурна-асьветнай працы, як сярод моладзі, так і сярод дарослых, водзячых коні на начлег. Мы, доўга ня разважаючы, пачалі пастанову райкому праводзіць на практыцы ў жыцьцё. Кожны вечар, седзячы каля вогнішча, гутараць аб чым-небудзь сяляне. Падыходзіць да іх комсамолец, прыслухоўваецца аб чым яны гутараць. Патроху ён пачынае гутарыць з імі потым гаворка пераходзіць на іншую тэму, заранней прыдуманую комсамольцам і добра яе ўсвоіўшым. Селянін, напрыклад, кажа:—„ Вось кара божыя“. Няма і няма даждж... Трэба малебен справіць“.

Комсамолец пачынае даказваць, чаму няма даждж, як вырабіць глебу, якая-б не баялася засухі, аб зацямненьні народа папамі і інш. і інш...

У комсамольца і селяніна разгараецца спрэчка. Знаходзяцца прыхільнікі селяніна, знаходзяцца прыхільнікі комсамольца.

У нас моладзь дык заўсёды за комсамольцаў, як спрэчка аб чым-небудзь ідзе з селянінам. Другім ячэйкам трэба гэта скарыстаць, бо гэта самая лепшая летам культурна-асьветная праца сярод насельніцтва.

Комсамолец Ц. Рублёў.




## 3-я Комсамольская конфэрэнцыя

*(Старобінскага раёну.)*

23-24-га мая ў м-ку Старобіне працавала 3-я раённая конфэрэнцыя комсамолу.

Першым пытаньнем конфэрэнцыі было: аб гаспадарчым будаўніцтве раёну. Старшыня райвыканкому адзначыў, што гаспадарка Старобінскага раёну падымаецца. Выраб некатарых с.-г. продуктаў перавышае даваенны ўзровень Напрыклад, у 1924 г. бульбы было пасеяна на 8 проц. болей, чымся ў 1913 годзе.

З прычыны вышэйадзначанага адчуваецца неабходнасьць у пабудове крахмальнага заводу, дзе-б селянін мог выгодна збываць сваe вырабы. Далей было адзначана, што „шлях да социялізму“ мацнее, што коопэрацыя расьце ня толькі колькасна, але й якасна (у Старобіне накладныя выдаткі на тавары дасягаюць 11 проц.).

Потым т. Верамеяў—сакратар райкому рабіў справаздачу аб працы райкому з часу 2-ой конфэрэнцыі па 3-ю.

У шматлікіх спрэчках выявілася, што паміж дасягненьнямі маецца многа і недахопаў. Дасягненьні конфэрэнцыя адзначыла гэткія: сваячасовую ліквідацыю беспрацоўя сярод рабочай моладзі (з 20-ці беспрацоўных асталося толькі 2). Павялічэньне проценту дзяўчат у саюзе з 15-ці да 20,3 проц. Павялічэньне партасяродку ў саюзе з $1^1/_2$ проц. да 8 проц. Сваячасовы мэдагляд рабочай моладзі і іншыя.

Недахопы такія: вялася слабая праца сярод парабкоў. Яшчэ ўсё-ж такі прыкмячаюцца нядобрыя адносіны комсамольцаў да вясковых дзяўчат. На юнкораўскую працу зусім ня было зьвернута ўвагі. Былі выпадкі, калі ячэйка проста не давала комсамольцам займацца юнкораўскай працай і інш.

---

Актыўнасьць моладзі расьце. У нашым раёне кожныя два дні даюць комсамольца.

Конфэрэнцыя прашла пад знакам еднасьці і згуртаванасьці, што было адмечана прадстаўнікамі компартыі ў канцы конфэрэнцыі. Дэлегаты актыўна й горача абгаворвалі ўсе стаячыя на абвесцы дню пытаньні; гэта відно хаця-б з таго, што конфэрэнцыя зацягнулася на два дні, у той час, калі думалі скончыць за адзін.

М. Багушэвіч.




# Вясковы комсамол на коопэрацыйным фронце

Коопэрацыя бязупынна ўзрастае. Цяпер ужо від на яе вялічэзная значнасьць, асабліва сельска-гаспадарчай коопэрацыі.

Мы ўглядаем шэраг значных недахопаў і няправільнасьцяй у працы коопэрацыі. Растраты і дрэнныя ўчынкі ў коопэрацыі пачалі насіць масавы характар і асабліва востры у нізавой сетцы, у вёсцы. Мы сустракаемся са зьявішчамі гэткага характару, як кулацкае запанаваньне ў вясковых коопэратывах, спэкуляцыя пад страхой коопэратыву, выцясьненьне куалацкімі элемэнтамі беднаты з коопэрацыі.

Усё гэта кажа за тое, што комсамолу трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на працу ў коопэрацыі.

Якім-жа чынам праводзіць працу ў коопэрацыі? Бо, галоўным-жа чынам, праводзіць коопэратыўную працу можна, працуючы непасрэдна ў праўленьні коппэратыву, а ў праўленьне не абіраюць „за прыгожыя вочкі“ і за тое, што ты носіш пачэснае імя комсамольца. Галоўная задача і месьціцца ў тым, каб дамагчыся аўторытэту ў сялянства, каб высунуцца на актыўную коопэратыўную працу. Шмат хто з вясковых комсамольцаў, вычытаўшы дзе-небудзь, што комсамолец павінен агітаваць за ўступленьне ў коопэратыў, пачынае крычаць праз усю вуліцу, што вось „вы несьвядомы, не ўступаеце ў коопэрацыю“ і г. д., і г. д. А калі селянін спытае ў яго: „А сам ты сябра коопэратыву?“,—дык хлапец стане ў тупік і чэша патыліцу, шукаючы апраўданьня. Гэткі няглыбокі погляд часта сустракаецца ў вясковых ячэйках.

Гэткім чынам, першая задача (гэта, зразумела, датычыцца да гаспадарча-самастойных хлопцаў) зьяўляецца ў тым, каб перш за усё самому быць проста сябрам коопэратыву—яшчэ мала. *Трэба быць сьвядомым і актыўным сябрам яго.* Неабходна, каб комсамолец—сябра коопэратыву ўважліва сачыў за працай праўленьня, прыкмячаючы ўсе яго недахопы, папярэджваючы альбо выкрываючы ўсе магчымыя быць злоўжываньні. Калі ў гэтым напрамку будзе што-небудзь зроблена, аўторытэт яго адразу падымецца і з ім будуць лічыцца.

Цяпер пытаньне аб прыёме. Тут часта можна сустрэць дзьве крайнасьці—адна з іх—імкнуцца ўцягнуць сапраўднага кулака ў коопэратыў, другая—апаска кулака даходзіць да гэткай ступені, што ў крыху заможным селяніне ўглядаюць кулака і як мага ад яго адгараджаюцца. Тут комсамольцы—сябры коопэратыву павінны асабліва ўважліва сачыць за тым, каб не адхіліцца ані ў адзін, ані ў другі бок.

У тых мясцох, дзе комсамольцы актыўна ўдзельнічаюць ў жыцьці і працы мясцовага коопэратыву, можна ўглядаць вельмі характэрнае зьявішча. Гэта—стычка дзьвюх сіл, дзьвюх процівалеглых лягераў. З усіх вясковых організацый коопэрацыя самае карыснае месца для кулака, і вось чаму ў коопэрацыі мы можам ўглядаць асабліва востра выяўленую барацьбу паміж новым і старым, паміж моладасьцю, энэргіяй комсамольцаў і хітрасьцю і практыкай кулакоў.

Як мы ўжо казалі, адзін са шляхоў да непасрэднай коопэратыўнай дзейнасьці знаходзіцца ў заваёве аўторытэту праз актыўны ўдзел у вырашэньні ўсіх пытаньняў, што зьвязаны з коопэратывам.

Другі шлях заваёваў аўторытэту знаходзіцца ў здабычы коопэратыўных ведаў і *выяўленьня* іх у працы. Першай ступеньню, якая вядзе да гэтых ведаў, зьяўляецца коопэратыўны альбо сельска-гаспадарчы гурток. Сельска-гаспадарчыя, а ў асаблівасьці коопэратыўныя гурткі сустракаюцца не асабліва часта. І калі пытаешся аб прычынах, якія пашкодзілі яго ўтварэньню, заўсёды атрымоўваеш адзін адказ: „Няма грошай, няма кіраўнікоў, няма часу“ і г. д. Бязумоўна, гэткі адказ не зьяўляецца апраўданьнем па той прычыне, што дзеля ўтварэньня коопэратыўнага гуртка не патрабуецца ні вялікага ліку грошай, ні асабліва шмат часу. Прасьцей за ўсё—дык гэта ўтвараць пры хатах-чытальнях коопэратыўныя куткі. Са сродкаў, вызначаных на літаратуру, крыху можна скарыстаць на коопэратыўную літаратуру, якая і прапрацоўваецца шляхам гутарак, зразумела, пры найбліжшым удзеле загадчыка хаты-чытальні альбо настаўніка. Школы сялянскай моладзі павінны аддаць значную частку часу дзеля прапрацоўкі коопэратыўных пытаньняў як тэорытычнага характару, гэтак і практычнага, галоўным чынам, на аснове працы мясцовай коопэрацыі. Менавіта школа сялянскай моладзі і павінна зьявіцца асяродкам насаджэньня коопэратыўных ведаў у вёсцы.

Вывад з вышэйсказанага можа быць адзін— больш увагі вясковай коопэрацыі з боку комсамольцаў.

С. Пшэжэцкі.

# Здароўе і быт батрацкай моладзі

Ня гледзячы на тое, што праз мэдыцынскі агляд прашло каля 9 тысяч рабочай моладзі, а батрацкай—125 чалавек, што складае вельмі нязначны процант у вадносінах да ўсяе колькасьці моладзі, якая прашла праз мэдыцынскі агляд—усё-ж такі можна ўзяць на сябе адвагу казаць аб усёй батрацкай моладзі, бо згодна вестак ЦСПСБ батрацкай моладзі ў профсаюзе зямлі і лесу налічваецца 289 чалавек. І калі праз мэдыцынскі агляд прашло 126 чалавек, гэта-значыць 43 проценты ўсяе батрацкае моладзі, якая паддаецца падліку.

### Экономічна-бытавы стан.

З агульнага ліку абсьледаваных налічваецца: 101 мужч., жанчын 24. Па нацыянальнасьці: беларусаў—75 проц., яўрэяў—11 проц. і іншых—14 процантаў.



Цікавыя весткі маюцца аб тэрміне працы. Выяўлена, што ў параўнаньні з усёю рабочаю моладзьдзю гораду батрацкая моладзь мае большы стаж працы, а менавіта: ад 3 гадоў і звыш—68 проц., а адзін год і да году—усяго 12,8%. Затое ў адносінах аплаты ў батрацкай моладзі справы шмат горшыя. Працуюць зусім без заработку 27,2 проценты і 56 проц. атрымоўваюць ад 5 да 14 рублёў; з добрым-жа заработкам зусім нязначны процант (0,8). Калі возьмем колькасьць працоўных гадзін дню, дык убачым, што норма працоўнага дню тут не захоўваецца. Меней паловы працуюць па 8 гадзін, а ўсе астатнія па 9, 10, 11 гадзін у дзень. Працаю ўночы занята 9,5 проц. Грамадзянскаю працаю заняты 44 проц., каля 50 проц. не заняты ёю. Тут справа стаіць дрэнна. Гэта сьведчыць аб тым, наколькі яшчэ патрэбна ўцягнуць батрацкую моладзь у працу комсамолу і ў грамадзянскую працу ў вёсцы і ў саўхозе.

Вось прыблізна некаторыя нарысы экономічнага, соцыяльна-бытавога становішча батрацкай моладзі.

Неабходна адзначыць досыць радаснае зьявішча, што з усяе лічбы абсьледаваных мы маем пісьменых—82 проц. і няпісьменых—18 проц. Гэта сьведчыць, што ў гэтай галіне справа стаіць добра.

### Фізычны стан батрацкай моладзі.

Калі фізычны стан рабочай моладзі мы азначаем словамі „вельмі дрэнна“, дык у вадносінах да батрацкай моладзі можна яго становішча азначыць словам „дрэннае“, і вось зачым:

З усяго ліку абсьледаванай батрацкай моладзі яна па сваёй упітанасьці падзяляецца так: з добраю ўпітанасьцю—23,2 проц., з сярэдняю—58,2 проц., з дрэнною—16 проц.

Па целаскладу: з моцным—21,6 проц., з сярэднім—63,2 проц., з слабым—18,4 проц.

Кураць—50 проц.

Адносна ўжываньня сьпіртных напіткаў лічба ня зусім праўдзівая і верыць ёй цалком ня прыходзіцца... бо адказы давалі якія хто хацеў, і лічба гэта наступная: 6,5 проц.—пьюць.

З усіх гэтых вестак аб становішчы організму батрацкай моладзі можна зрабіць адзін вывад: становішча-сярэдняе, у той час, калі патрэбна было чакаць ад батрацкай моладзі значна большага проценту з добрым станам здароўя.

Што датычыцца хвароб, дык яны разьмяркоўваюцца ў наступным парадку:

Усіх хворых—59,2 проц.

З больш сур'ёзных, гэта:

| | |
|---|---|
| сухотных | 6,4 проц. |
| малакроўных | 1,2 „ |
| хваробы органаў дыханьня | 20 „ |
| хваробы вачэй | 8 „ |

Апрача ўсіх гэтых хвароб, мы маем выпадкі, пры якіх моладзь працуе ў ненормальных умовах—15,2 проц., асобы патрабуючыя пераводу на больш лягчэйшую працу—5,6 проц. і, нарэшце, патрабуючыя лячэньня і папраўкі здароўя—43,2 проц.

Мэдыцынскі агляд 1926 г. ахопіць большы лік батрацкай моладзі і выявіць сапраўдны стан, пасьля чаго трэба будзе адразу распачаць да конкрэтнага палепшаньня здароўя і быту батрацкай моладзі.

**Б. Брадоцкі.**




# Пераліцавалі

**Юрка Доўгі**

*(П'еса ў 3-х дзеях).*

**Асобы:**

1. АНДРОН—селянін гадоў з 50.
2. МАРЫЛЯ—яго жонка.
3. СЫМОНІХА—суседка, старая кабета.
4. АНТОСЬ ЛУЧОНАК—сын Сымоніхі, малады хлапец.
5. ГАННА—маладая дзяўчына, гадоў 18—20.
6. ДЗЕД.
7. Першы селянін.
8. Другі селянін.

Сяляне, сялянкі, хлопцы, дзяўчаты.

### Дзея першая.

*Сялянская хата. Як заслона адчынілася, на сцэне адна Марыля сядзіць на маленькім зэдліку і абірае бульбу. Праз нейкі час уваходзіць Андрон, распранаецца і сядае за стол.*

Андрон. Ну, дай мне, кабеціна, чаго-колечы папалуднаваць, а то вельмі-ж есьці захацелася.

Марыля *(выцерла хвартухом рукі і дастае з печы яду):* Ня трэ' было цягацца нямаведама дзе без патрэбы.

Андрон. Нідзе я не цягаўся, а хадзіў па сваіх вельмі важных справах.

Марыля *(ядавіта):* Якія гэта такія „важныя справы“ ў цябе могуць быць? *(Паставіла яду на стол).*

Андрон: А табе што да таго? Ты баба—сядзі вось у запечку, ды пільнуй сваіх гаршкоў ды панчохаў, а ня лезь з сваім цікавым носам куды цябе ня просяць.

Марыля: Бачыш ты!? А забыўся, вунь, што казала ў нас на сходзе тая стрыжаная, што з гораду прыяжджала?.. Забыўся?..

Андрон *(есьць):* Дурная ты! Каб усё тое рабілася, што кажуць, то даўно-б сьвет дагары нагамі перавярнуўся-б... А ты вось менш слухай дзе хто што кажа, а свой розум мець павінна. *(Махнуў рукою).* Ды што там... розум... Быў калі ў бабы розум!... От... *(У гэты момант адчынілася акно і ў ім паказалася лахматая галава Антося. Адзеты ён у падраную кашулю, так што матузы целяпаюцца, на галаве адзета звычайная, але вельмі-ж брудная шапка, валасы скудлачаны, увесь брудны).*

Антось *(сеў на вакне зьвесіўшы ногі на двор).* Добры дзень у хату.

Андрон *(не адгінаючыся ад міскі):* Добры то добры, але табе што за інтэрас да гэтага? Гэта першае. Другое—чаму гэта ня йдзеш праз дзьверы, як гэта ў добрых людзей робяць, а па вокнах чапляешся?..

Антось *(лушчыць гарбузы):* Пакінь, дзядзька, сварыцца. Ты ведаеш—хто я, а я ведаю—хто ты. Вось, калі хочаш, дык хату тваю ў паветра пушчу! *(Узяў нешта з кішэні).* Хочаш?

Андрон *(просячы):* Не блазнуй, Антось...

Марыля *(схатла качаргу):* Вось я табе зараз пушчу, каб ты штаны напусьціў, гад ты... *(Падбегла да Антося і хоча біць).*

Антось *(злавіў качаргу):* Пачакай, цётка Андроніха. Я-ж яшчэ не перавярнуў хаты, дык за вошта-ж мы будзем біцца?!. *(Марыля патузалася крыху, але бачуча, што ня дасьць рады, кінула качаргу, плюнула, вылаялася і зноў узялася за бульбу. Антось тымчасам улез праз вакно ў хату, паставіў качаргу ў качарэжнік, знашоў у пасудку лыжку і падсеў за стол к Андрону).*

Антось: Ну, дык што ты тут, дзядзька, ясі? Мабыць, нешта смачнае, калі мяне не паклікаў? *(Глянуў у міску)* Ого-го!.. Ты што-ж гэта... кожны дзень яешню ясі?.. Га?.. *(Пачынае есьці).*

Андрон *(падсунуў яму міску):* І скажы ты мне, Антось, чаму ты гэтакі дурасьлівы? *(Зьняў яму з галавы шапку і палажыў на лаве).* Ходзіш брудны, абадраны... І няўжо табе ня сорам. Гэтакі хлапец... Пабаяўся-б ты бога.

Антось: А ці-ж бог ёсьць? Чаму-ж я яго ня бачыў анідзе?!

Андрон: Эх, Антось, Антось!... Ты-ж хлапец малады, здароўя хоць адбаўляй... Ажаніўся-б... зямлі ўзяў-бы... жыў-бы й гора ня знаў.

Антось *(да гэтага часу ён сьмяяўся, але пры апошніх словах раптам зрабіўся сур'ёзны, палажыў лыжку і цяжка ўздыхнуў):* Э-эх, дзядзя Андрон!... Цесна мне тут!.. *(Разарваў на грудзях кашулю).* Душа мая... прастору хоча... імкнецца кудысь!... А падацца ня маю куды... *(Панура).* Жаніцца... Што-ж, я-б ажаніўся, але добра ведаю, што за мяне ані адна дзяўчына, якая толькі мяне бачыць, ня пойдзе... Ды што тут казаць... Ці-ж у жаніцьбе сэнс усяго жыцьця?... Мяне не здавальняе ваша жыцьцё... Мне трэба чагось іншага зусім, не-

падобнага на сучаснае... *(Раптам)*. А сілы ў мяне—няма дзе падзецц!.. Э-эх!.. Хочаш, дзядзька, ўсю хату ў момант перавярну?

Андрон *(просячы)*: Антоська братка, пакінь... *Марыля злосна пагладае на Антося.*

Антось: Што?... Ня хочаш?. Баішся? Ня трэба! Але вакно... вакно разаб'ю!.. Га-га-га!... *(Хваціў з стала міску і з усёй сілы кінуў яе ў вакно. Вакно разьбілася і шкло дзынкаючы рассыпалася па падлозе. Антось выбег з хаты).*

Андрон. Ах, каб цябе бог пабіў... гад ты..

Марыля *(у сьлёзы)*. Ах, божа, мой божа... Што гэта за насланьнё нейкае на нас. Вось дзе бог пакараў... гэтым... гэтым...

Сымоніха *(уваходзіць)*: А мае вы міленькія. Што гэта ў вас тут парабілася?... Ці не Антось мой тут у вас пагуляў?

Марыля. Ах, каб ён сабе галаву разьбіў, каб ён... гад гэты... абармот... А ты вось... выгадавала сына, людзям на пакуту... халеру гэткую... Каб ён сабе ногі паламаў... каб ён...

Андрон. Ды годзе табе ўжо... распусьціла губу... як малатарня.

Сымоніха: А мае-ж вы родненькія, дык ці-ж я таму вінавата? Ці-ж мне лёгка слухаць, як маё роднае дзіцятка людзі праклінаюць?.. *(Плача).*

Андрон *(зьбірае пабітае шкло)*: Пакінь, старая, плакаць. Ніхто так ужо надта і не праклінае твайго Антося, а тут калі крыху мая баба й ляпнула языком, дык гэта праз дурасьць... бо кожны ведае, што Антось хлапец ня кепскі... Але ў яго душа неспакойная... натура такая... Ну, то што-ж зробіш? Калі ўжо так дрэнна ў яго на душы, то хай хоць на вокнах пацешыцца. Шкло ў нас рэч такая, што ў кожны момант купіць можна, а душа ў чалавека...

Марыля *(са злосьцю)*: Купіць!.. Купіць!.. Многа накупляў!.. Бач, які багацей знайшоўся...

Андрон *(да гэтага часу ён быў спакойны, але апошнія словы жонкі яго раззлавалі)*: А бадай цябе пяруны, бадай цябе... І чаго ты разявілася?!. Вось дзе назола. Людзей-бы не сьмяшыла... *(У гэты момант у хату ўваходзіць дзед. Твар у яго ўвесь размалёваны сажаю, за плячыма прычэплена якаясь ануча, у шапку ўваткнуты пук гусінага пер'я. Усе зьдзіўлена глядзяць на яго).*

Дзед *(убачыў Сымоніху)*: Ага-а-а!.. Вось дзе я цябе злавіў, трасца тваім баком і ліха тваёй мацеры... *(Падбег да яе і трасе перад носам палкаю).* Ты скажы мне, калі ласка, калі гэта на цябе і на твайго бэньця сьмерць прыдзе?.. Га?.. Кажы!..

Андрон *(стаў паміж дзедам і Сымоніхаю)*: Што гэта вам, дзеду, так хутка зажадалася, каб старая Сымоніха памёрла?..

Дзед: А што-ж бо?! Выгадавала сынка... Каб ён сабе галаву зьвярнуў... недавярак гэты... *(Хоча, каб як з-за Андрона дастаць палкаю Сымоніху).*

Сымоніха. Да во... да во... *(Хаваючыся за Андрона).* Чаго ты прычапіўся да мяне?.. Цьфу!.. Здурнеў стары, ці якое ліха...

Дзед: Вось я табе зараз пакажу „здурнеў"!.. *(Да Андрона).* Пусьці, а то й табе кія дам!.. Ну?..

Андрон *(сьмяючыся)*: А за што-ж мне?.. *(Адабраў у яго палку).* Вось лепш, дзеду, памыйся, а то прычапіўся да старой нямаведама чаго...

Дзед: А на вошта-ж яна распусьціла свайго бахура, каб яго ногі не насілі, каб яго... Людзям па вуліцы прайсьці нельга... Ах, каб ён апундырыўся, гад...

Андрон *(зьняў анучу, пер'я і выцірае ручніком твар)*: Ціха, дзеду, ціха!.. Годзе лаяцца!..

Дзед *(сьлязьліва)*: З чаго-ж я цяпер курыць буду?.. Ах, недавярак гэты!.. То-ж я думаў, што ён мне сапраўды ў люльку тытуну насыпле, а ён заместа тытуну насыпаў пораху!.. То-ж вы адно паглядзеце... і люльку разарвала, і пальцы абсмаліла, і бараду, яшчэ чуць вачэй ня высмаліла... *(Дзяржыць у руцэ цыбук ад люлькі).* Ах, каб на ём шэрсьць курэла!.. Ну, і ў чым-жа я цяпер закуру?.. Дзе я сабе люльку вазьму?..

Андрон: Ціха, дзеду... Люльку мы дастанем... Гэта бяда не вялікая, быў-бы толькі тытун. *(За сцэнаю пачуўся крык дзяўчыны: „О-о-ой!.. Людзі добрыя!.. ратуйце!.. Ой-ё-ё-ёй! Людцы!.. ратуйце"!.. і г.д.).*

Усе: Што гэта? *(На момант анямелі, а пасьля дзед, Марыля і Сымоніха падбеглі к вакну і, штурхаючыся, лезуць у вакно, каб што ўбачыць, а Андрон кінуўся ў дзьверы. Праз некалькі хвілін уваходзіць у хату Андрон і цягне за сабою дзяўчыну, якая праз увесь час крычыць. Твару яе ня відаць, бо посьцілка паверх галавы накінута і заблытана на сярэдзіне).*

Андрон *(цягнучы яе ў хату)*: Ды годзе табе крычаць... Ня рэзаць-жа цябе будуць...

Ганна: Ой, дзядзечка, родненькі... ой-ё-ё-ёй!..

Андрон. Ды ціха ты!.. *(Разьвязаў посьцілку).*

Сымоніха, Марыля *(разам)*: Дык гэта-ж Ганна?!. *(Ганна плача).*

Дзед *(аглядаючы)*: Але ж Ганна!..

Андрон. Бадай цябе паляруш з дзеўкаю... І як гэта табе трапілася?..

Марыля. Хто-ж гэта, Ганначка, над табою такназьдзекаваўся?

Ганна *(праз сьлёзы)*: Гэта-ж Антось, каб ён сабе рукі паламаў... басяк гэты... абармот... валацуга...

Андрон: Та-та-та-та!.. Пане-есла!.. Вось дзе дакучлівае стварэньне гэтыя бабы... Каб ня вашыя доўгія языкі, дык нашаму брату пэўна лягчэй-бы жылося...

Марыля: А каб ня вашыя доўгія рукі, дык мы жанчыны...

Андрон *(перабівае)*: Ціха ты, малатарня, бо вось зараз кія дастанеш...

Марыля. Бач ты!? *(Узялася ў бокі).* Ты, мабыць, забыўся аб тым, што казала тая стрыжаная...

Андрон *(схваціў палку)*: Вось я цябе зараз як абстрыгу...

Марыля. Ну, ну!.. Паспрабуй... тады пазнаеш!.. Прашлі ўжо тыя часы, калі вы нашага брата за валасы цягалі... Я цяпер ня горш за цябе... Гэткая-ж самая члена...

Андрон *(кінуўся да яе с палкаю)*: Ах ты, растудыць тваю... комуніска ты акаянная...

Дзед: О то добра!.. Ого-го!.. Дай ёй, дай!..

*Марыля выскачыла вон з хаты, зачыніла за сабою дзьверы і дзяржыць адтуль.*

Андрон *(ломіцца ў дзьверы)*: Вось я табе пакажу члену!.. *(Раптам дзьверы адчыніліся і Андрон з імпэту стукнуўся аб 1 селяніна).*

1 селянін *(у дзьвярах)*: Што ты, чалавек?.. Што ты?..

Андрон. А-а-а!.. Выбач, браток... То-ж баба мая... каб на яе звод, каб на яе... *(Уваходзяць у ха-*

*ту*). Гэта-ж такую волю пачула!.. Яе-ж мужыкі каб ёй слова ня мог сказаць... Ах ты, макрахвостка ты!.. (*Грозіць*) Я тае дам такую члёну, што ты й на тым сьвеце будзеш помніць!..

1 селянін. Ды пакінь ты... Тут справы куды важнейшыя, а ты ўсё з бабаю ваюеш...

Андрон. Не!.. Дык ты-ж сам пасудзі...

1 селянін. Ціха, кажу табе!.. Вось слухай... З гораду прыехаў якісь вайсковы і загадаў зараз-жа склікаць сход... Кажуць, палякі сюды йдуць і ўжо блізка, дык гэты вайсковы будзе ў атрад запісваць!.. У дабравольцы!.

Дзед. Палякі йдуць!?

Андрон. У дабравольцы!?

1 селянін. Але!.. Дык забірайцеся ўсе ў школу... толькі хутка... (*Пайшоў*).

(*Паўза*)

Дзед (*чухае патыліцу*): Ай-я-яй!... Дык што-ж гэта будзе?.. Трэба йсьці ды сказаць свайму Андрэю, каб хаця ён ня йшоў запісвацца... То-ж будзе чыстая бяда... Што я тады з старою адзін рабіць буду? Уся гаспадарка прападзе... (*Пайшоў*).

Сымоніха (*да Ганны*): То пойдзем і мы Ганначка!..

Ганна: Пойдзем! (*Пашлі*).

Андрон (*застаўшыся адзін*): Вось дык штука!.. Я толькі сабраўся ўзяць сабе дзесяцін з пяць панскай зямлі, аж тут... на табе!.. Так хутка...

Антось (*зноў паказваецца ў вакне*): Дзядзька Андрон!.. Дай мне, калі ласка, маю шапку...

Андрон: Тваю шапку?

Антось: Але!.. Забыўся тут недзе ў хаце...

Андрон (*знашоў на лаве шапку*): Слухай, Антось! Ты зайдзі ў хату, я хачу з табою аб нечым важным пагутарыць...

Антось: А што?.. Ці ня думаеш, дзядзька, угаварыць мяне, каб заплаціў табе за вакно?.. Дык я наперад кажу, што ў мяне...

Андрон (*перабівае*): Ды не-е! Ня ў тым рэч! Тут справа куды важней... Ды хадзі-ж ты ў хату.

Антось: А перш аддайце шапку...

Андрон: А ты не ўцячэш?

Антось (*з задорам*): Эх, дзядзька Андрон! Кепска ты яшчэ ведаеш Антося! (*Ускочыў праз вакно ў хату*).

Антось (*даў шапку*): Ну добра, Антось, ня гневайся. Вось паслухай з увагаю і падумай добра над тым, што я табе буду казаць... (*З расстаноўкаю*). Ці ты чуў навіну?

Антось: Якую?.. Што паляк ідзе?

Андрон: Ага... значыцца, чуў... Ну, а што ты на гэта?

Антось: А мне што? Хай прыдзе хоць сам нячысьцік, то для мяне ўсё роўна...

Андрон: Эх, Антось!.. Я цябе праз увесь час, колькі цябе ведаю, лічыў разумным хлапцом, а ты толькі што сказаў вялікае глупства. Вось ты павярні сваімі мазгамі, прыпомні, як год таму назад былі тут паны, і скажы мне, калі табе лягчэй жыць было—ці год таму назад, за панам, ці вось цяпер?

Антось (*сьвіснуў*): Бачыш ты яго, куды ён кіруе?! Пачакай дзядзька, вось ты перш-на-перш растлумач мне, за што гэта ваююць розныя гэтыя бальшавікі, палякі, меншавікі і іншыя... Я ніяк ня ўцямлю сабе гэтага, а спытацца няма ў каго.

Андрон (*пацёр рукою лоб*): Яно ведаеш... Па праўдзе табе прызнацца, дык я й сам добра ня ведаю гэтага. Але мне здаецца, так: вайна йдзе за ўладу... Усякаму хочацца панаваць... Вось толькі бальшавікі, дык з гэтымі справа неяк іначай крыху... Яны, бачыш, кажуць што йдуць за беднякоў. Я таксама думаю, бо і сам-жа ты бачыш, ужо і зямлю пачалі панскую дзяліць, і хто бяднейшы, тым ў першую чаргу далі... Вось дзеля гэтага мы павінны ім памагаць... Палякі ідуць на бальшавікоў вайною, каб, значыцца, адабраць зямлю ад нас, мужыкоў... Мы павінны ўсе ўзяцца за аружжа каб ня пусьціць іх сюды... Каб я быў крыху маладзейшы, то абавязкова пашоў-бы... Ты, Антось, гэтак сама павінен...

Антось (*перабівае*): Не, дзядзька Андрон! Калі рэч ідзе аб зямлі, то мая хата з краю... Бывай здароў!.. (*Хоча йсьці*).

Андрон (*затрымаў яго за руку*): Пачакай, Антось, адну хваліну... (*Антось затрымаўся*). Ты сам мне сказаў, што наша жыцьцё цябе не здавальняе... Дык чаму-ж ты ня шукаеш таго, патрэбнага для тваей душы, лепшага жыцьця? (*Антось стаіць задумаўшыся*). Пашоў бы ў салдаты, а там... з тваёю галавою зусім лёгка выбіцца і ў афіцэры... А то й так... сьвету паглядзіш, і знойдзеш сабе лепшы прыпынак... Ты павінен змагацца, каб мець лепшае жыцьцё, а ты хочаш, каб яно само к табе прышло...

Антось (*раптам схваціў Андрона за руку*): Дзядзя Андрон! Шчырае дзякуй табе за тое, што ты мяне навучыў!.. Я іду!

Анрон: Во! Гэта памойму!... Ужо ты, Антоська, гарою стой за нашу долю мужыцкую!..

Антось Ды я-а-а!.. Хочаш, дзядзя Андрон... (*Закасаў рукавы*). Станавіся нага к назе, у момант палажу на лапаткі!.. (*Абняў Андрона*). Э-эх! Люблю я цябе, дзядзя Андрон, бо харошы ты чалавек!.. Дай пацалуемся!..

Андрон (*баронячыся*). Чакай, чакай!.. Пацалавацца, што ж... можна... (*Цалуюцца*). Толькі вось, што тычыцца таго, каб на лапаткі... То ўжо ты з паляком вазьміся... А мне старому куды тут... Ты вось што, Антось! Ідзі цяпер у школу, там цябе запішуць, а я зараз скажу бабе, каб бліноў напякла табе на дарогу...

Антось: І скажы, каб мёдам намазала...

Андрон: Добра, добра!.. (*Антось пашоў*) Н-ну! Цяпер вокны будуць цэлыя! (*Пацірае рукамі*). Але калі ў бальшавікоў будуць усе гэткія галаварэзы, то іх і сам чорт не пераможа.

ЗАСЛОНА.

(*Працяг у наступным нумары*).



# Хто за 5.000?

Штодзена гутарым мы аб тым, як падняць працаздольнасьць нашых комсамольскіх ячэек на вёсцы, асабліва тых ячэек, якія яшчэ маладыя і політычна ня выхаваны, альбо моладзь знаходзіцца без кіраўніцтва і ідзе пад уплыў папоў, як, напрыклад, у вёсцы Белевічах поп з'арганізаваў хор, куды пашоў увесь маладняк. Гэта кажа за тое, што ячэйка сапраўды ня ведае, як працаваць. Таксама нашы комсамольцы любяць насіць „шапку на баку"—рабіць з сябе „комсамольскіх генэралаў". Гэткае здарэньне было ў Старчыцкай ячэйцы, дзе комсамольцы за самагонку, за барацьбу кіраўніцтва ў „танцульках" атрымалі кепскія грошы.

Усё гэта кажа аб тым, што мы політычна ня выхаваны, ня маем вопыту ў працы, і шукаем шлях, каб далей гэта ня сустракалася, каб моладзь адгуквалася на ўсю тую працу. якую будзе праводзіць тая ці іншая ячэйка. У гэтым выпадку нам ідуць насустрэч, друкуюць зразумела часопісі. Гэткаю часопісьсю ў нас у Беларусі зьяўляецца „Малады Араты". Але што мы бачым? *Часопісь ня ў дастатачнай меры прасунута у масы.*

*Сялянская моладзь часамі і ня ведае пра яе існаваньне.*

На мой погляд, часопісь зьяўляецца гэткім падручнікам, без якога вясковаму комсамольцу немагчыма абыйсьціся.

Тое, што „Малады Араты" становіць рэльсы політычнага разьвіцьця,—гэта факт (бяру з сябе)

Тое, што „Малады Араты" добра вучыць працаваць сярод сялянскае моладзі—з гэтым таксама ніхто супярэчыць ня будзе.

Мне здаецца, што хто сапраўды хоча працаваць сярод сялянскай моладзі, той, бязумоўна, павінен чытаць часопісь, і ня толькі сам, але так, каб уся моладзь была падпісчышкам яе.

Шмат аб гэтым ужо гутарылі, але цяпер давайце мы паставім гэта пытаньне канкрэтна:

I. Зрабіць тыраж ня гэткім, якім ёсьць ён сёньня—1.500, а 5.000, вось якая задача прад намі.

II. Бліжэй да часопісі беспартыйная моладзь—праз допісы.

III. Ніводнага вясковага комсамольца, вясковай ячэйкі КСМ, атрада ЮП без часопісі Малады Араты.

IV. Уся моладзь павінна чытаць, пісаць і выпісаць „Малады Араты".

Вось пад якімі лёзунгамі я прапаную правесьці тыдзень распаўсюджваньня часопісі „Малады Араты", дзеля чаго трэба, каб ЦК ЛКСМБ даў належнае ўказаньне Акружкомам і ячэйкам, як правесьці гэты тыдзень.

Другое, гэта на месцы трэба, наладжваючы вечарынкі і спэктаклі, скарыстаць іх дзеля выпіскі. І галоўнае як правесьці трэба, схаўрусавацца на сходзе ячэйкі, дзе не выдзяляць асобнага таварыша, а працаваць ўсім разам.

Трэба ўзяць на сябе адказнасьць, каб часопісь сваячасова дасылалася падпісчыкам.

Лёзунг—„даеш 5.000 „Маладога Аратага"—наш лёзунг, наша задача, задача вясковых комсамольцаў, выпаўніць.

Дзеля першага пачатку, выпісваю часопісь „Малады Араты" на 3 месяцы і выклікаю: 1) Шпілеўскага Міхася, 2) Чарнушэвіча Янку, 3) Смоліча Міхася, 4) Шпілеўскага Янку, 5) Смоліча Антося, 6) Вечара Янку, 7) Вечара Антося, хлапцоў в. Выгода, Семежаўскую яч. КСМ, Леткоўскага сакратара РК КСМ Вайтовіча, політпрасьвета Варвяшэню, Дб. ЮП і ўсіх сакратароў політасьветаў, піонэр-важакоў выпісаць на гэтулькі і ў сваю чаргу вызваць другіх таварышоў.

Уладзік Тарапові́ч.

Семежаўская яч. ЛКСМБ.

# Практычная дапамога нашаму супрацоўніку

**1) У кожным допісе асьвятляй адно пытаньне. 2) Кожны допіс павінен адказваць на запытаньні: калі, дзе, што, хто, чаму. 3) Пішы чытэльна і атрамантам. 4) Ня пішы на абодвух баках аркушу. 5) Пакідай паміж радкоў больш месца, каб гэтым рэдакцыі палегчыць праўку матэрыялу. 6) Пакідай месца і паміж словамі ў радку. 7) Кожная старонка павінна канчацца без пераносу. Новая старонка павінна пачынацца з самастойнага сказу. 8) Тэкст допісу пачынай не з самага верху старонкі, а крыху ніжэй, каб можна было лёгка напісаць новы загаловак. 9) Падкрэсьлівай зьнізу літару „Ш", зьверху літару „Т". Асабліва чытэльна пішы літары: н, і, а, о, я, г, е 10) Кожную старонку нумаруй і нумар абводзь колам 11) У верхнім левым рагу першай старонкі пішы сапраўднае сваё прозьвішча. 12) Ня пішы на адным баку аркуша два альбо некалькі допісаў 13) Ня пішы скарочана, таксама ня пішы скарочаных назоў, якія вядомы выключна ў тваёй організацыі. 14) Падкрэслі ўсе галоўныя мясьціны ў допісе, тыя, на якія ты зьвяртаеш асаблівую ўвагу. 15) Напісаўшы допіс, перачытай і памысьлі, ці нельга яго скараціць за лік агульных сказаў і разважаньняў. Калі магчыма—зрабі сам. 16) Пад кожным допісам падпісвай свой адрас і дату, калі допіс напісаны.**

# Перапіска з нашымі супрацоўнікамі.

**Янку Кіму**—Цябе, брат, даўно рэдакцыя залічыла сваім супрацоўнікам. „Аратага" выпісала табе рэдакцыя за лік ганарару. Сур'ёзны крытычны аддзел адчынім у „Аратым" з кастрычніка. Гурток організаваць бязумоўна можна і з 3-х асоб—аб чым трэба паведаміць Цэнтральнае бюро „Маладняка".

**Ул. Таранові́чу**—„Частушкі"—слабыя. „Вышаў сьмех"—дробязь. Чакаем допісаў.

**А. Сьцежцы**—Твой допіс „Заклікаю шэфа на дапамогу" перасланы ў фабзаўком II друкарні. „І ня сорам вам!"—спаэьніўся.

**Васілёнку**—Ты пытаеш, ці можна слаць у „Араты" лісты бяз марак. Адказваем. Ня маеш грошай на марку, пасылай без яе, аднак лепш каб з маркаю. Чакаем допісу аб тым, як удзельнічае ваша моладзь у коопэрацыі. Пры складаньні допісу карыстайся артыкулам М. Адзінца „Рэжым экономіі і комсамол вёскі". („Мал. Ар." № 10).

**Да ўсіх нашых супрацоўнікаў**—Рэдакцыя зьвяртаецца з просьбай дасылаць у часопіс допісы аб тым, як на мясцох праводзіцца рэжым экономіі і як удзельнічае ў правядзеньні гэтай кампаніі вясковы комсамол.

Рэдактары: Іл. Барашка. Я. Галодка.

Менск, 1-ая дзярж. друк. Зак. № 2879. Галоўлітбел № 18298.

лёгкі становішча народных мас і іншых нацыянальнасьцяй у Польшчы.

Але зусім неспадзявана Пілсудзкі ад пасады прэзыдэнта адмовіўся. Ён вылучыў заместа сябе кандыдатуру профэсара Масьціцкага, які і быў абраны ў прэзыдэнты. Адмова Пілсудзкага ад пасады прэзыдэнта, як відаць, тлумачыцца тым, што ён хоча перш за ўсё дамагчыся дыктатарскіх праў прэзыдэнту, а гэта лягчэй будзе зьдзейсьніць праз нацыянальны сход у тым выпадку, калі прэзыдэнтам будзе Масьціцкі. Масьціцкі, зьяўляючыся кандыдатам Пілсудзкага, будзе дзейнічаць па загадах апошняга. Характэрна, што ў тых палацах, дзе будзе жыць новы прэзыдэнт, жыве і Пілсудзкі.

**Слова за масамі.**

Масы ўсё больш упэўніваюцца ў тым, што ад Пілсудзкага чакаць няма чаго, што ён рабочым і сялянам нічога ня дасьць.

Яны пачынаюць разумець, што яны стануць вольнымі ад паноў і буржуазіі не праз пераварот Пілсудзкага, а дамагаючыся сваймі ўласнымі рукамі.

У Польшчы ўжо нанава пачынаюцца сялянскія паўстаньні. Сяляне хочуць нізрынуцьця ўлады паноў і буржуазіі. Яны пачынаюць выганяць панскую скаціну, вырубаць панскія лясы, біць паноў і г. д.

Палепшыць становішча ў краіне, адшукаць выхад з дрэннага экономічнага становішча, палегчыць становішча народных мас можа ня ўрад, утвораны Пілсудзкім, а ўрад рабочых і сялян, урад, утвораны ў выніку шырокага масавага руху рабочых і сялян.

**М. Ш.**

---

*(Працяг апавяданьня „Сьвяты калодзеж“).*

— А процiў бога ты не пашоў?
— З богам вышлі нялады.
— Дык чаго табе трэба?
— Пачуць ад цябе, што ты мяне выгнаў.

Такога адказу бацька ніяк не чакаў. Чуе бацька, што сын адольваць яго пачынае.

— Ты сам сябе выгнаў,—кажа бацька, і сэрца яго баліць па сыне.

Сьцёпка зьбірае свае сякія-такія рэчы, дакуманты.

— Куды зьбіраешся?—пытае Міхайла.

— Пайду навукі шукаць, на рабфак ці не паступлю.

Прыпамінаецца Сьцёпку яго размова з бацькам аб рабфаку.

— Ну, ідзі, павучыся: паразумнець табе трэба,— спакойна адзываецца бацька.

Слухае маці і нічога ня цяміць, як-бы ёй розум засланіла.

Сьцёпка нешта хоча ўзяць, але не адважваецца—ці варта. Хлеба ў людзей папросіць.

Бацька маўчыць, на покуць пазірае.

Маўчаць, баязьліва паглядваюць Алесь і Юрка.

Сьцёпка сабраўся. Ідзе,—спыняецца каля дзьвярэй, акідае поглядам хату.

— Ну, то бывайце здаровы.

Ніхто нічога ня кажа яму.

Сьцёпка ступае крок, на парозе затрымліваецца.

— Я, мама, вінаваты перад табою... Ну, да ты ня гневайся.

Маці кідаецца да яго, кладзе яму на плечы рукі, а галавою да грудзей прынікае...

Плача ўголас і Юрка. Алесь крэпіцца, маўчыць зацята, зрэдка на бацьку ваўчком паглядае.

На вуліцы перад акном людзі зьбіраюцца.

— Адстань ты ад яго—прыліпла!—крычыць на жонку Міхайла.

Сьцёпка вызваляецца з матчыных рук. Выходзіць на вуліцу. Яму няма чаго на людзей сароміцца. Пазіраюць людзі на Сьцёпку, а ён высока падняў галаву, глядзіць на сваю дарогу.

— Куды-ж гэта ты?—пытае нейчы голас.

Сьцёпка не абарочваецца, кідае на ходу:

— Рабіць новы зруб на новы калодзеж.

Міхайла Барута за сталом сядзіць.

На вуліцу праз аконца глянуў.

Дзьве сьлязы з вачэй выкаціліся. Выкаціліся і высахлі.

— Добры хлопец!—кажа ён сам сабе і потым дадае:

— І чорт яго ня возьме.

**Тарас Гушча.**

---

# Зьмест.






# ПРЫМАЕЦЦА ПАДПІСКА
НА НАСТУПНЫЯ ПЭРЫОДЫЧНЫЯ ВЫДАНЬНІ
ВЫДАВЕЦТВА
## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
ДА КАНЦА
1926
ГОДУ

## „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“
ГАЗЭТА

**Орган ЦК ЛКСМБ і Менскага Акруговага Камітэту ЛКСМБ.**

Выходзіць тры разы на тыдзень. Дае кіраўнічы матэрыял па пытаньнях комсамолу, асьвятляе жыцьцё гораду і вёскі, зьмяшчае фэльетоны з комсамольскага жыцьця, апошнія навіны са ўсяго сьвету, багата ілюструецца.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—25 кап. На 6 мес.—1 р. 50 к.
На 3 м-цы—75 кап. На 1 год—3 р. — к.

**Гарантыруецца акуратная дасылка ва ўсе гарады і вёскі.**

## ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

## ЮНГЕР АРБЭЙТЭР
ГАЗЭТА

**яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка.**

**Орган Яўрэйскай Сэкцыі ЦК ЛКСМБ**

На сваіх старонках асьвятляе жыцьцё яўрэйскай моладзі гораду і мястэчка, налічвае вялікі лік уласных дапісчыкаў, зьмяшчае на сваіх старонках кіраўнічы матэрыял. Выходзіць штотыдзень.

**УМОВЫ ПАДПІСКІ**

На 1 м-ц—15 кап. На 6 мес. — р. 90 к.
На 3 м-цы—45 кап. На 1 год—1 р. 80 к.

**Яўрэйская моладзь павінна чытаць „ЮНГЕР АРБЭЙТЭР“.**

ЦІ ЧЫТАЕЦЕ

ДВУХТЫДНЁВУЮ ЧАСОПІСЬ СЯЛЯНСКАЙ МОЛАДЗІ

## „МАЛАДЫ АРАТЫ“

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—на сваіх старонках праводзіць гутаркі аб палітыцы. Высьвятляе ўсе цікавячыя сялянскую моладзь пытаньні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**— праводзіць агрономічныя гутаркі, высьвятляе асобныя лепшыя гаспадаркі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—дае парады сялянскай моладзі, у каго вывучыцца, зьмяшчаючы жыцьцёпісы правадыроў БССР і СССР.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—вядзе барацьбу за новую вёску, змагаецца з усімі дрэн. бакамі жыцьця вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—друкуе творчасьць сялянскай моладзі: апавяданьні, вершы, прыпеўкі, жарты. Таксама друкуе комсамольскія п'есы і песьні.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—для сялянскай моладзі будзе высьвятляць жыцьцё і працу моладзі гораду.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—друкуе артыкулы па пытаньнях Комсамолу, Комуністычнай Партыі, зьвязаныя з працаю вёскі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—таксама высьвятляе жыцьцё вёскі, друкуючы корэспондэнцыі, лісты вясковай моладзі і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—высьвятляе жыцьцё сялян і рабочых Заходняй Беларусі.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—таксама друкуе матэрыялы для забаў: загадкі, гульні і г. д.

**„МАЛАДЫ АРАТЫ“**—дае параду моладзі, што чытаць, водзывы аб кніжках як бібліотэкі „Чырвоная Зьмена“, так і інш.

## УМОВЫ ПАДПІСКІ з дасылкаю да хаты.

| | | | |
|---|---|---|---|
| на 1 месяц | 15 к. | на 6 месяц. | 90 к. |
| на 3 месяцы | 45 к. | на 1 год | 1 р. 80 к. |

Падпіска на ўсе выданьні прымаецца ў Менску—канторай выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, на мясцох: вылучанымі ўпоўнаважнымі друку пры кожнай комсамольскай ячэйцы, агентамі выдавецтва „Чырвоная Зьмена“, а таксама ўсімі паштова-тэлеграфнымі аддзяленьнямі.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ ЎСІХ ПАМЯНЁНЫХ ВЫДАНЬНЯЎ:**

Менск, Комсамольская, 25. ВЫДАВЕЦТВА „ЧЫРВОНАЯ ЗЬМЕНА“

